–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
3
ЛІПЕНЯ
1992 г.
№ 27 (3645)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

Янка КУПАЛА

# МАЯ ВЕРА

Не веру ідалам паганым,
Што выразаюць разбяры,
Бажкам не веру маляваным,
Што мажуць фарбай маляры.

Не веру купленым прарокам,
Што з казальніц за грошы лгуць
І сочаць прагавітым вокам,
Скуль больш чырвонцаў ім нясуць.

Не веру ў фокуснікаў цуды
Усіх народаў і вякоў,
Што ў ход пускаюць хітра ўсюды
Туман на цёмных слепакоў.

Не веру ў каменны багоўні,
У людской асвенчаны крыві,
Дзе толькі вяжуць, бы ў прыгоне,
жывому духу ланцугі.

Ні за якую плату, меру
Не дамся гэтай варажбе...
Ў народ і край свой толькі веру
І веру ў самаго сябе.



Матэрыялы да 110-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы — на 5, 6 і 7 старонках гэтага нумара.

## СКАЖЫ НАМ, ДЗЯДЗЬКА, ЦІ Ж ДАРЭМНА?

Валянцін ТАРАС: «Ганаруся сваёй прыналежнасцю да пакалення людзей, якія выстаялі ў бітве з германскім фашызмам. Ганаруся таму, што Вялікая Айчынная вайна — гэта, бадай, адзіная старонка нашай гісторыі савецкага перыяду, на якой няма ні сораму народа, ні яго віны за ўсё тое, што звязана з бальшавізмам, з камуністычнай утопіяй».

СТАРОНКА 4

## «МРОІ»

Барыса ПЯТРОВІЧА.

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

Эдзі АГНЯЦВЕТ, Петруся МАКАЛЯ.

СТАРОНКІ 8—9, 12

## ЯНКА КУПАЛА— НАША БУДУЧЫНЯ

Алег ЛОЙКА: «Янка Купала прыйшоў да нас, беларусаў, позна. Але, можа, і сама запозненасць прыходу — паказчык сілы, бо ж каб уваскрэснуць цераз чатыры стагоддзі — дзеля гэтага патрэбна была сапраўдная звышэнергія».

СТАРОНКА 5

## НА «КРЭСАХ» БЕЗ ПЕРАМЕН?

Чытаючы «польскую» пошту рэдакцыі.

СТАРОНКІ 14—15

# Скажы нам, дзядзька, ці ж дарэмна?

ГЭТЫ артыкул быў амаль ужо напісаны ў верасні мінулага года як адказ на выступленне журналісткі Галіны Айзенштадт, якое было змешчана на старонках газеты «Знамя юности» (3. IX. 91 г.) пад назвай «Не старэюць душой ветэраны, нязменна падтрымліваючы лінію партыі». Нагодай для выступлення журналісткі, з'явілася пазіцыя Беларускага камітэта ветэранаў вайны, які ў мінулагоднім жніўні выказаўся ў падтрымку «гэкачэпістаў» — сённяшніх вязняў «Матроскай Цішыні». Асуджаючы сталінісцкую пазіцыю камітэта, журналістка, у прыватнасці, задавала і такое пытанне: «...хіба радавыя ветэраны не нясуць адказнасці за тое, што гавораць іх «лідэры»? Менавіта гэтае пытанне, звернутае, хай сабе не персанальна, і да мяне, прымусіла ўзяцца за артыкул. Аднак закончыць яго перашкодзіла хвароба, а потым наплылі такія пасляпутчавыя падзеі, у віхуры якіх ён адышоў на задні план. Але цяпер, калі адзначаецца сорак восьмая гадавіна вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, я гатовы паўтарыць усё тое, аб чым думаў, пра што напісаў у тыя мінулагоднія верасnёўскія дні — яшчэ ў БССР, яшчэ ў Савецкім Саюзе...

Дык вось, я — таксама «радавы ветэран», радавы ўдзельнік Вялікай Айчыннай. І ганаруся гэтым. Ганаруся сваёй прыналежнасцю да пакалення людзей, якія выстаялі ў бітве з германскім фашызмам, ганаруся сваім партызанскім медалём, які атрымаў раней, чым пашпарт — у чатырнаццаць год. Ганаруся таму, што Вялікая Айчынная вайна — гэта, бадай што, адзіная старонка нашай гісторыі савецкага перыяду, на якой няма ні сораму народа, ні яго віны за ўсё тое, што звязана з бальшавізмам, з камуністычнай утопіяй. Так, з гэтай утопіяй ніяк не могуць развітацца «лідэры» ветэранаў, і ў тым, што датычыцца ацэнкі дзейнасці камітэта ветэранаў вайны, у мяне няма прынцыповых разыходжанняў з пазіцыяй журналісткі, аднак неабходна зразумець, чаму многія ветэраны гатовы былі пайсці за «лідэрамі», чаму яны, як пісала Галіна Айзенштадт, нават «у будні ходзяць па вуліцах горада, начапіўшы на грудзі ўвесь ордэнскі «іканастас»? Думаецца, не толькі таму, што амаль усе яны ўжо зусім старыя людзі і сам узрост супраціўляецца ломцы стэрэатыпаў, але і таму, што ўсё часцей робяцца спробы кардынальна памяняць пункт гледжання на Вялікую Айчынную вайну, скінуць яе з пачэснага пастамента гісторыі, гаворыць аб ёй як аб звычайнай вайне паміж двума тыранамі, даказаць, што яна не была сапраўды народнай, айчыннай вайной, не была антыфашысцкай: маўляў, як яна магла быць антыфашысцкай, калі абодва бакі былі фашысцкімі? Выходзячы з такіх разважанняў, зусім проста паставіць знак роўнасці паміж салдатам вермахта і савецкім салдатам, паміж паліцаем і партызанам...

Ды што там знак роўнасці! Некаторыя людзі дагаварыліся да таго, што сцвярджаюць, быццам гітлераўская акупацыя была для Беларусі меншым злом, чым камуністычны рэжым, што тыя, хто пайшоў служыць Гітлеру, зрабілі гэта з тактычных меркаванняў, дзеля таго, каб, абапіраючыся на вермахт, зламаць шыю камунізму, а потым пазбавіцца і ад германскага фашызму, які ўсё роўна быў асуджаны на пагібель, на немінучы разгром сіламі заходніх дзяржаў, што ў выніку перамогі над гітлераўскай Германіяй без сталінскага Савецкага Саюза адрадзілася б незалежная беларуская дзяржава, падмурак якой тыя, хто нібыта здрадзіў сваёй Бацькаўшчыне, пачалі закладаць яшчэ пад ботам акупантаў. І таму людзі, якіх называюць калабарантамі, здраднікамі, ніякія не здраднікі, а самыя сапраўдныя, самыя шчырыя патрыёты. Што ж! Былі сярод гэтых людзей і шчырыя патрыёты, такія, як, напрыклад, Ларыса Геніюш, ды толькі сама яна ў сваёй «Споведзі» расказала і паказала, наколькі наіўнымі былі разлікі на адраджэнне беларускай незалежнасці ва ўмовах гітлераўскай акупацыі, паказала твар гітлерызму, такі ж пачварны, як і твар сталіншчыны. Так што выйсця для беларусаў, акрамя ўсенароднай барацьбы супраць іншаземнай фашысцкай навалы, не было.

Праўда, ёсць людзі, якія лічаць, што было яшчэ адно выйсце, яшчэ адзін спосаб, дзякуючы якому можна было беларусам захавацца і ва ўмовах гітлераўскай акупацыі, пазбегнуць вынішчэння беларускага насельніцтва, такіх трагедый, як Хатынь: сядзець ціха. Адзін мой добры знаёмы, прыстойны чалавек і таленавіты пісьменнік, творчасць якога адзначана сапраўднай чалавечнасцю, глыбокім спачуваннем простым людзям, неяк сказаў мне, што, калі б беларусы ў час вайны сядзелі ціха, цураліся партызан, не пасылалі сваіх хлопцаў у партызанскія атрады, якія — гэта ж усё-такі факт! — амаль усе ўзначальваліся камуністамі, дык немцы беларусаў і не чапалі б, не палілі б разам з людзьмі беларускія вёскі. І, такім чынам, беларусы дачакаліся б лепшых часоў, пазбегнуўшы такіх страшэнных ахвяр, вынішчэння лепшага генафонду нацыі. Ці варта было беларусам ваяваць за сталіншчыну? Відаць, не варта. Гэтак жа, як за немцаў.

Я сказаў: «Ну, добра! Давай дапусцім на хвіліну, што так яно і сталася. Беларусы сядзяць ціха, немцы іх не чапаюць. Але побач з беларусамі, сярод іх ужо нямала стагоддзяў жыве яшчэ адзін народ, які, як бы ён сябе ні паводзіў, усё роўна знішчаецца пагалоўна, — яўрэі. Як жа павінны ставіцца да гэтага беларусы? Спакойна назіраць? Хай забіваюць, спальваюць жыўцом майго знаёмага, суседа, сябра? Толькі за тое, што ён яўрэй! Як тут быць з тваім гуманізмам, з тваім сумленнем, з тваёй маральнасцю? У такіх варунках — ці не будзе твая пазіцыя «сядзець ціха» саўдзелам у генацыдзе?»

Чалавек сумеўся, задумаўся, а я пашкадаваў, што пры гэтай нашай размове не было журналісткі Галіны Айзенштадт. Бо хто-хто, а яна проста не нарадзілася б на свет, калі б не тыя ветэраны, якія раздражняюць яе на вуліцах горада бляскам сваіх ордэнаў і медалёў. Нацысты былі нелюдзі паслядоўныя і свой план татальнага знішчэння яўрэяў давялі б да канца. І ніяк «чаша сия» не магла б абмінуць бацькоў журналісткі. Як не абмінула б яна і беларусаў, і рускіх, і палякаў, бо машына знішчэння народаў спынялася толькі тады, калі канчаецца «сыравіна». Ці тады, калі яе спыняюць сілай. Што і зрабілі ветэраны Вялікай Айчыннай. Можна пашкадаваць, што большасць ветэранаў вайны жыве сваім мінулым, застаецца ў палоне камуністычнай ідэалогіі. На жаль, у гэтым палоне яны і памруць, яшчэ, гадоў дзесяць, і — на палёгку некаторым «радыкалам», якіх раздражняе іх існаванне, — не застанецца ніводнага. Але застанецца іх гістарычная заслуга перад чалавецтвам, застанецца іх подзвіг — перамога над карычневай чумой. Таму немагчыма не абараняць іх ад наскокаў некаторых няўдзячных нашчадкаў, якія забыліся, што абавязаны ім жыццём. Гэта не абарона светапогляду ветэранаў — гэта абарона старасці. Балюча, горка бачыць яе разгубленасць, яе бездапаможнасць, яе сіроцтва на вятрах дэмакратычнай рэвалюцыі, якая пакуль што прынесла старым людзям толькі галечу. Ім ужо не растлумачыш, што гэта — «пакуль што», не растлумачыш, што ў пакутах, у цяжкіх выпрабаваннях нараджаецца, усталёўваецца нармальнае грамадства, дэмакратычны лад, заснаваны не на утопіі, не на абяцанках-цацанках, якія толькі дурню радасць, а на самой чалавечай прыродзе, на правах чалавека. Не растлумачыш, што сённяшнія цяжкасці выніклі не з дэмакратычнай рэвалюцыі, а пасыпаліся з камуністычнай «скрыні Пандоры», як толькі з гэтай скрыні збілі замок, што грамадства плаціць нястачай і галечай па тым рахунку, які быў выпісаны гісторыяй у гады камуністычнага панавання. Нічога гэтага ім не растлумачыш, тым больш тады, калі іх адштурхоўваюць, калі гучаць галасы, што яны з гітлераўцамі і паліцаямі адным мірам мазаныя. І становіцца зразумелым, чаму яны былі гатовыя вітаць янаеўска-язаўскую хунту, слухаць каманды «чырвоных палкоўнікаў» Алксніса і Петрушэнкі, чаму яны сёння, кульгаючы і крэкчучы ад старэчых хвароб, валакуцца на мітынгі камуністаў, пляскаюць у ладкі красамоўнай дэмагогіі таварыша Чыкіна, які маніць ім, як манілі камуністычныя важакі на працягу сямідзесяці чатырох год, абяцаючы казачную «светлую будучыню». Аднак нельга не заўважаць, што таварыш Чыкін, улічваючы іх псіхалогію, не смяецца з іх «орденского иконостаса», умела маніпулюе гэтай усё яшчэ важкай і значнай грамадскай сілай. Ён ведае, што гэтым старым не зразумець, не ўцяміць, што камуністычная наменклатура зноў, як гэта было пасля сорак пятага, крадзе ў ветэранаў іх Перамогу. На працягу амаль пяцідзесяці пасляваенных год наменклатуршчыкі цалкам прыпісвалі Перамогу сабе, сваёй партыі, каб яшчэ больш умацаваць сваю ўладу; сёння яны спекулююць пачуццямі ветэранаў, каб уладу вярнуць.

І гэта павінны разумець тыя, хто бярэцца за палітычнае асветніцтва народа, павінны разумець, што не можа ветэран Вялікай Айчыннай, адказваючы на пытанне: «Скажы нам, дзядзька, ці дарэмна ж?», сказаць: «Дарэмна, даражэнькія!»

Не дарэмна! Бо фактам гісторыі, які нікому ніколі не ўдасца ні закрэсліць, ні перайначыць на свой палітычны капыл, застаецца тое, што ў той момант гістарычнага часу, калі гітлераўская Германія напала на сталінскі Савецкі Саюз, характар вайны пачала вызначаць не сталіншчына, а народнае змаганне з іншаземнай навалай, барацьба народа за сваё гістарычнае і проста фізічнае існаванне. Вайна, на якую пайшлі нават дзеці, была справядлівай. Нездарма высокія замежныя госці, у тым ліку і немцы, калі прыязджаюць да нас, перш за ўсё ўскладваюць вянок да абеліска Перамогі і здымаюць перад ім капелюшы.

Ну, а цяпер крыху ўспамінаў, звязаных менавіта з 3 ліпеня, наогул з маёй вайной.

Мне было адзінаццаць з паловай, калі ўсё гэта пачалося. Мама памерла ў час «фінскай кампаніі», у студзені саракавога, тата ў чэрвені сорак першага пайшоў на фронт. Мы засталіся ў Мінску — бабуля, шаснаццацігадовая маміна сястра, мая сястрычка Тасічка, якой 27 чэрвеня, якраз у той дзень, калі ў Мінск увайшлі немцы, спаўнілася сем год, і я. Неяк жылі — галадна, у чужой хаце, бо наша згарэла на трэці дзень вайны, калі бамбілі «юнкерсы».



Мінск, 3 ліпеня 1944 года. Ракурс, з якога зроблены гэты здымак жыхароў сталіцы Беларусі, што вітаюць савецкіх воінаў-вызваліцеляў, фактычна не дае сапраўднай карціны тагачаснага горада. Нават такіх каробак з пустымі вачніцамі вокнаў на ўвесь Мінск было зусім нямнога—увесь горад ляжаў у руінах...

Час даўно сцёр сляды вайны. Час, памножаны на руплівую працу соцень тысяч мінчан. І дзякуй Богу. Галоўнае, каб было ціха на нашай зямлі, нашай Беларусі, што ідзе па шляху дзяржаўнай суверэннасці.

Каб карміць сям'ю, бабуля стала «калабаранткай», уладкавалася ў сталоўку нямецкага шпіталя прыбіральшчыцай, нешта прыносіла з аб'едкаў. Пазней «калабаранткай» зрабілася і мая цётка Люцына: пайшла ў тую ж сталоўку мыць посуд.

У жніўні сорак другога я сышоў з дому, слова не сказаўшы ні бабулі, ні цётцы, ні сястрычцы, — падаўся ў партызаны. Дагэтуль адчуваю сваю віну перад роднымі, асабліва перад бабуляй, хоць яе даўно няма на свеце, — віну і шчымлівы боль. І ўсё ж хоць мне і балюча за той учынак, аднак — не сорамна, таму што гэта, бадай, адзіны ўчынак у маім жыцці, калі я зрабіў блізкім людзям кепска, прымусіў іх пакутаваць, хвалявацца за мяне, думаць у роспачы, дзе я і што са мной не з капрызу, не з эгаізму, не з безадказнасці, а ў імя вялікай справы.

У партызаны мяне доўга не бралі — малы. Ды нарэшце знайшліся хлопцы, не намнога — гадоў на пяць — старэйшыя за мяне, і ўзялі! Барыс Бахмутаў і Мікалай Ягораў, разведчыкі. Яны загінулі трэцяга мая 1944 года, роўна за два месяцы да вызвалення Мінска. Нарваліся на паліцэйскую засаду, адстрэльваліся да апошняга патрона... Нізка кланяюся іх памяці.

Бо забыцца не мог я ніколі.
Ад журботы не мог уцячы,
Што на свеце — ні Боры, ні Колі,
Толькі грудачка жвіру ў Пцічы.
Абарваныя кулямі сцежкі
Пагубляліся ў ціхай траве,
Згаслі дзве белазубыя ўсмешкі,
Нібы зоркі вясёлыя дзве...

Трэцяга ліпеня наш атрад сустрэў у лесе над Іслаччу, непадалёк ад той мясціны, дзе цяпер стаіць Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач». З раніцы вялі бой з адступаючымі немцамі, якія больш нам далі «дыхту», чым мы ім, — гэта табе не паліцаі, а вермахт, умелыя, вопытныя салдаты. Яны хутка прарвалі наш заслон, зніклі ў лесе. Атрад падаўся за імі, наступаў ім на пяты, а на Іслачы, каля броду, застаўся толькі невялічкі дазор, у складзе якога быў і я. І вось да броду з боку Мінска пачаў набліжацца грузавік нейкай незнаёмай нам маркі, такіх мы ніколі не бачылі, але адразу было відаць, што грузавік не нямецкі.

Гэта быў амерыканскі «студабекер», у кузаве сядзелі маладзенькія салдацікі ў рускіх касках, і мы выскачылі з дазорнага акопчыка, закрычалі: «Нашы! Гэта нашы!» Грузавік заехаў у рэчку і загрэз, забуксаваў, мы кінуліся да яго. Адчынілася дзверца кабіны, і з яе скочыла ў ваду... жанчына-афіцэр, войкнула, вылаялася «па-руску», бо вада аказалася даволі глыбокая, вышэй каленяў. Убачыўшы мяне, маленькага, худзенькага, апранутага ў дарослую сялянскую куртку, падпяразаную сырамятнай дзягай, на якой вісеў патранташ і граната, з трафейным бельгійскім карабінам на плячы, жанчына засмяялася: «Ну что, герой? Много немцев уложил?» А я глядзеў на яе, на салдацікаў, якія пазлазілі з кузава, штурхалі, раскачвалі «студабекер», каб выкаціць яго з ямiны, і плакаў ад радасці.

А закончыўся гэты дзень страшна. Вярнуўся атрад, стаў лагерам над Іслаччу. І недзе пад вечар хлопцы затрымалі ў лесе нейкіх дзецюкоў у цывільным, без зброі. Было іх пяць чалавек, размаўлялі па-руску, казалі, што яны аднекуль з-пад Смаленска, што немцы мабілізавалі іх «на окопы», што на гэтых акопных работах яны знаходзіліся ў раёне Маладзечна, а цяпер вось уцяклі і прабіраюцца да дому. Выслухаўшы іх, начальнік асобага аддзела загадаў ім, каб паказалі рукі—далонямі ўверх. Мазалёў на далонях у дзецюкоў не было... Ды і адзенне іхняе было чыстае, дабротнае, усе пяцёра былі ў новых, спраўных ботах. І асабіст загадаў усіх іх расстраляць: «Они полицаи! Или гестаповцы! Морочат мне голову какими-то окопами! Я вот еще весной поработал хорошенько лопатой, так мозоли до сих пор не сошли. Кончать их!»

І кончылі. І я гэта бачыў — як іх расстрэльвалі ва ўпор з аўтаматаў. Як запырскала зялёную палянку крывёю і мазгамі...

Ці мог я тады зразумець, што гэта сталіншчына яшчэ раз паказвае ўсім нам свае кіпцюры, каб не забываліся, каб ведалі, што «кончыць» можна без суда і следства, «по наитию» асабіста? Каб зразумець гэта, трэба было пражыць доўгае жыццё. А пакуль што за плячыма было толькі дзяцінства, хай сабе і выпрабаванае жорсткай вайною, але ўсё ж дзяцінства, наіўнае, шчырае, легкавернае. Школа вайны навучыла толькі мужнасці, толькі загартавала характар—да сталасці душы, да сталасці сэрца і розуму трэба было яшчэ ісці і дайсці. І ўсё-ткі, хоць на гэтым шляху даўным даўно памяняўся мой сімвал веры і згаслі для мяне фальшывыя зоры «светлай будучыні ўсяго чалавецтва», адна зорка мінулага застаецца нязгаснай — высокая зорка Вялікай Айчыннай. І побач з ёй адна з яе іскраў—дзень 3 ліпеня 1944 года.

**Валянцін ТАРАС.**

*Да 110-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы*

# Янка Купала - наша будучыня

**Алег ЛОЙКА**

ЯНКА КУПАЛА — наша будучыня. Мы — з Янкі Купалы, і калі мы застанёмся ў свеце народам між народамі, застанёмся з Янкам Купалам. І, пэўна, найперш з той прычыны, што Янка Купала — наша будучыня, мы — аптымісты, поўны веры, упэўненасці і даверу да будучыні. І гэта нягледзячы на тое, што жыццёвы і творчы лёс Янкі Купалы быў няпросты, складнадраматычны і ў цэлым трагічны.

Але чаму ён, лёс Янкі Купалы, павінен быў быць не трагічны, калі сынам трагічнага народа быў Янка Купала? Верачы ў сваю будучыню, мы менавіта павінны быць свядомымі свайго трагізму ў свеце — трагізму ў мінулых стагоддзях, трагізму нашай сучаснай сітуацыі.

Трагізм Янкі Купалы — першая навука нам. Трагізм Янкі Купалы — першая запарука нам, што, усведамляючы яго, мы выйдзема з паласы, у якой знаходзімся, пераадолеем тое, чаго не пераадолеў Янка Купала, і будзем пры перамозе Янкі Купалы, пры яго прароцкасці-вяшчунстве і гімнасцева-сцвярджальнай упэўненасці:

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,**
**Над крыжамі бацькоў, над нягодамі,**
**Занімай, Беларусь маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між народамі!**

Трагізм нашага народа ў свеце пачаў 1569 год, пачала Люблінская унія. Парадаксальна! У Любліне тое адбывалася, але не па любові, не ад злюбушлюбу, хоць было параваннем, як тады казалі, двойга — дваіх: Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў адзінай Рэчы Паспалітай. На каленях стаялі магнаты Вялікага княства, просячы ў караля літасці. Украіна ўжо была карпаравана Польскім Каралеўствам. Каб не быць карпараваным, Вялікае княства пайшло на новую унію.

Чаго не хапіла тады Вялікаму княству? Не хапіла моцы — найперш мілітарнай. Княства да таго часу знясілілася ў барацьбе з усходнім суседам. Заходні сусед тое бачыў, таго вычэкваў. Імперскі-феадальныя, захопніцкія інтэнцыі і ў Маскве і ў Кракаве былі ўжо ў адкрытай форме. І не сказаць, каб уласна рыцарская моц Вялікага княства была на той час, як моль, малая, бо гэта ж напярэдзе яшчэ былі перамогі Батуры-Баторыя не без успамогі мясцовых мячоў, як і дзесяцігадовая эпапея Крыштафа Радзівіла 70—80 гадоў, апетая ў паэме «Дэкатэрас» Андрэем Рымшам. Але залатнік быў падкінуты ўжо, і не арлом, а рэшкай падаў ён долу. Чаму ж, аднак?..

Бо калі гаварыць праўду пра саму Люблінскую бяду, то яе Вялікае княства — як быццам нават і лёгенька — ручма развяло, выпальваючы, па сутнасці, да апошняга каліва палітычныя і эканамічныя шанцы, якія для сябе Польскае Каралеўства новай уніяй выгадвала. І тое ўставанне з каленяў ішло вельмі натуральна — прававым шляхам, за кошт юрыдычнай думкі, духоўнай адраджэнскай сілай, што крынічыла ад Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Льва Сапегі, Андрэя Рымшы. Статут Вялікага княства 1588 года — апагей Беларускага Адраджэння XVI стагоддзя, кніга актаў сацыяльнай і народнай волі, палітычнай, дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальнага гонару, шляхетнасці духу, высокай чалавечай годнасці. Менавіта першасныя гістарычныя карані вальналюбства, незалежніцтва, нацыянальнай годнасці, шляхетнасці духу Янкі Купалы — з Беларускага Адраджэння XVI стагоддзя і ў найбольшай ступені — са Статута 1588 года.

Як жа, аднак, нашыя славутыя продкі, пераможцы Статутам палітычную і эканамічную экспансію Люблінскай уніі ды пры тым славячы яшчэ сябе і пад сцягамі Батуры і Радзівіла-Перуна, кінулі затым сябе і свой народ у бясслаўе, асудзілі народ на пакутлівае доўгацярпенне, доўгачаканне Янкі Купалы?..

Праз доўгія гады нам тлумачылі так класавым эгаізмам магнатаў, беларускай шляхты, палітыкай акаталічвання, апаляччвання, русіфікацыі, што праводзілася то Ватыканам, то імперыяй Раманавых. Але нешта ў гэтую схему ніяк не падключыць адной чалавечай ісціны: няўжо нашыя продкі — вяльможныя і невяльможныя — толькі тое і рабілі, каб іх дзеткі былі няшчасныя, каб іх народ вырадзіўся, меў адныя толькі пакуты на свеце?! Бацькі ж не могуць не жадаць шчасця сваім дзецям! Няўжо іншы які закон — антыродзічны, звыродніцкі, дзецененавісны — дзейнічаў праз стагоддзі пад небам нашай Белай Русі?..

Янку Купалу мы, беларусы, сапраўды чакалі доўга. І сёння думаецца, што ён прыйшоў да нас найперш з памяццю пра славу нашых продкаў. Ён прыйшоў да нас усё ж з пачуццямі ўдзячнасці ім. Але якім усё ж доўгім быў той час, калі ў нас увогуле ўсё ў Купалы, звязанае з гістарычнай памяццю народа і рода, выкасоўвалася, нібы таго ў яго ніколі і не было. Светлы вобраз гераічнага князя? Вобраз князёўны? Паэма «На Куццю»? Усё захіляў тады ў нас у Купалы вобраз мужыка, ды толькі працаўніка, ды яшчэ толькі гаротніка! А напластаванні памяці народа і рода ў Янкі Купалы як паэта нацыянальнага і геніяльнага, яны ж ва ўсёй яго паэзіі — асабліва 10—20-ых гадоў нашага стагоддзя, бо і ў вершах пра «пана сахі і касы», і пра «лесу шэлест верасны», і пра «песню вясны лебядзіную» явара і каліны. Прычым, гістарычная памяць Янкі Купалы — гэта менавіта паэтычная, эмацыянальная памяць беларусаў: падручніка гісторыі па ёй не створыш, але што ў ёй — натурфіласофская, лірычная памяць больш чым тысячагодняга існавання беларусаў, — гэта так. І асабліва ў ёй магутныя легенды гераічнага «Слова пра паход Ігаравы», так і вершаў у большай ступені часоў былой славы, залатога веку Бацькаўшчыны, Адраджэння. Асобным жа, найглыбейшым падглеб'ем паэзіі Янкі Купалы — дахрысціянскі мацярык беларускага прыгожага пісьменства — з крыніц язычніцкага сонцаўспрымання, прыродаўспрымання, з часоў, калі дрэва, кветка, звер, птушка былі тотэмамі, ад якіх нашы продкі вялі свой людскі, чалавечы род, якім яны ніжэй травы пакланяліся. І гэта таму перш за ўсё большасць вершаў Янкі Купалы пра прыроду ўсе такія незвычайныя, шматслойныя сэнсам, нюансамі, мелодыямі, гукапісам.

Ды Янка Купала і сам сябе ў сваіх вытоках дастаткова выразна разумеў, калі першым сваім псеўданімам браў назву ад купальскага свята, а яшчэ адным называючы сябе — з вялікай літары — словам «Вайдэлота». Перш за ўсё ў абсягу старажытнага славянскага свята Янка Купала пачуваў сябе найвальней, найудалей, як, па-другое, і ў літуанска-балцкай традыцыі, як, па-трэцяе, і ў славяна-кельцкай стыхіі творчага духу. Міфічны беларус Купала сышоўся ў паэзіі Янкі Купалы, быццам бы з братам, з летувіскім вайдэлотам і гэтаксама ж, быццам бы з братам, з кельтам-друідам, што, як і шчаслівец-беларус, калі ў купальскую ноч знаходзіў купальскую кветку, роўна разумеў перашэпт зораў, кветак, звяроў, птушак, гуллівай хвалі і маўклівага прыдарожнага валуна. Народы гэткай прыроды не маглі не нарадзіць сыноў сваіх песнярамі, баянамі, друідамі, вайдэлотамі — геніямі ўсёвідушчасці, усёчуйнасці, валадарамі найпершых ісцін у сусвеце, выпяваных словам, мелодыяй, гукам.



Я. КУПАЛА. 1900 г.



Вязынка, калыска паэта... Фота Ул. КРУКА.

«Беларускай песні валадар», — гэта ў Янкі Купалы было сказана пра сябе ў поўні самаўсведамлення свайго дару і свайго валадарства — пасля «жудаснага», як назваў яго сам паэт, 1918 года, але і года стварэння вершаў «Свайму народу», «Спадчына», «Паязджане», «Крыўда». Жудасным было спароджана самае вяршыннае ў паэта, спароджанае пасля трох гадоў маўчання...

Паэт, які валодаў вайдэлотаўскай імправізацыяй, паэт, які, паводле яго ж прызнання, мог напісаць у дзень трыста радкоў, нічога ў вершы не папраўляючы, — як жа было такому паэту маўчаць?! А ўвогуле ён, паэт Янка Купала, і загаварыў не рана, бо беларускі першы верш выдрукаваў у сваё дваццаць тры, а «Жалейку» — першую сваю паэтычную кнігу — у сваё дваццаць шэсць гадоў. Што ж датычыцца перабіваў у пісанні вершаў, то яны ў Янкі Купалы з другой паловы 20-х гадоў стануць хранічнымі.

І тут сапраўды можна адно здзіўляцца з прыроднай моцы таленту Янкі Купалы і з таго яго ўнутранага супраціўленчага духу, які не папускаў слова на волю. Была моц таленту, валадарання беларускім словам, і быў дух непакоры, гонару, адпрэчвання. Такога феномену, відаць, ва ўсёй сусветнай літаратуры не знайсці: геній слова маўчыць. Але ж не толькі маўчаў Янка Купала...

Не без новага пакрыўджання гісторыяй выйшаў беларускі народ з імперыялістычнай і грамадзянскай вайной, падзелены Рыжскім дагаворам. Якім дагаворам?! Зговарам, дэмагогіяй, бесцырымоннасцю! Чым жа мог адказаць на ўсё гэта горды нашчадак Скарыны і Льва Сапегі? Паэт Янка Купала, як пры канцы ' А. С. Пушкін, выйшаў да бар'ера. У 1926 годзе друкуюцца яго вершы «Каб...», «У лесе», «І прыйдзе...». «Каб...» — верш-праклён палавіншчыкам-далакопам Беларусі. «У лесе» — верш-прадчуванне, у якім зязюля так мала кує-прарочыць гадоў паэту, — увогуле гадоў жыцця ці жыцця гордага, валадарнага над беларускай думкай і словам, над сваёй песняй? Было менавіта прадчуванне блізкага канца валадарання сваёй песняй. Бо гордай, валадарнай ёй суджана было заставацца сапраўды вельмі нядоўга, бо толькі чатыры гады заставалася да трагічнага вечара 22 лістапада 1930 года. Спроба самазабойства была з прагі сцвердзіць сваю волю, свой шлях нацыянальнага генія, Беларусь увогуле, яе будучыню ўвогуле.

Сёння мы ведаем, што і як пасля Купалавага самасцвярджэння пісаў у Маскву Постышаву сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі нейкі Гей. Сёння мы ведаем, што не вазьміся Янка Купала за самабойчае лязо, Беларусь стала б палігонам першага публічнага судовага працэсу, якімі на свой лад у 30-х гадах праславіліся Масква і Украіна. Ад ганьбы гэтых працэсаў народ свой выручыў Янка Купала; ад пагалоўнай — у пень, ушчэнт — расправы з Беларуссю падняццём рукі на сябе народ свой выручыў Янка Купала. Спробай свайго самагубства шанц на будучыню народу свайму пакінуў Янка Купала. Мы, аднак, дасюль недаацанілі мудрасці і гераізму Янкі Купалы-самагубцы, рыцарскай шляхетнасці гэтага яго ўчынку. У гэтым сваім учынку Янка Купала быў герой, а не баязлівец, як потым, у 30-х гадах, ён быў ахвярай, а не героем, сам стаўшы культыкам, «сацыялістычным па змесце», як тады казалі, «нацыянальным па форме», — культыкам у сузор'і прыбліжаных да культу Джамбулаў Джабаевых, Лысенкаў, Стальскіх і г. д. Дэмагагічны дыктатар дзеля таго ж і насаджаў тытулаваных Народных паэтаў, каб затым тыя «народную» любоў да яго ўсяму свету агалошвалі.

Але нічога простага, аднаскладовага ў жыцці Янкі Купалы ніколі не было. Бо як мы цяпер ні ацэньваем працэс беларусізацыі ў першай палове 20-х гадоў, ён, аднак, меў сваё месца, меў, хай і пад дэмагагічным, падманным крылом савецкай улады. І то ж было ўжо не смаленска-мясніканска-кнорынаўскае збэшчванне беларусаў і беларускасці. Кнорын стаў на чале беларусізацыі, і хоць, здавалася, Янка Купала вунь які абвостраны нюх меў яшчэ ў 1919—1920 гг. на пераафарбаваных літаў, тое ж, што дзеялася, дзеялася так закамуфлявана, што паверылі ў тое і Янка Купала і Якуб Колас, і эміграцыя на чале з Вацлавам Ластоўскім і Паўлінай Мядзёлкай. Ды вельмі ж скора вера кожнага з іх падлегла выпрабаванням.

Янку Купалу было цяжка заўжды, — ці цар быў, ці Ленін, ці Сталін. Мы паўтаралі міфы аб «рэвалюцыйнай радасці» Янкі Купалы 20-х гадоў, «ціхай» радасці яго ляўкоўскага цыкла, бачылі ў ім песняра «радасцяў» індустрыялізацыі, «вялікага пералома» ў вёсцы — калектывізацыі, нават не заўважаючы, што з пераломам, якая ж яна радасць? І ўвогуле лірыка паэта 30-х гадоў — лірыка чалавека надломнага, адно што сузіральнага, як у вершы «Сосны», «Йшоў я пушчай...», «Сонцу», «Генацвале». У далёкім мінулым заставалася легенда аб чалавеку дзейсным, магутным, валадарным.

Ды як ні быў прыглушаны талент Янкі Купалы 30-мі гадамі, Янка Купала заставаўся Янкам Купалам. Няхай яму не суджана ўжо было ўзлуньваць да былога валадарніцтва, ды што ён яшчэ мог узлуньваць, пра гэта засведчыў першы ж твор паэта, напісаны пасля чэрвеньскай трагедыі 1941 года, — верш «Беларускім партызанам». Паэт Народа звяртаўся да Народа, паэт-адраджэнец, будзіцель зноў будзіў свой народ — цяпер на подзвіг абарончы, насуперак усяму, што было ў 20—30-х гадах. Тое, што было з ім і з Беларуссю ў тыя гады, цяпер адступала перад страшэннай народнай бядой, перад новым будучым пасля перамогі, якое ж трэба было абараніць, адстаяць — з верай у яго, у народ.

Янка Купала, як ужо гаварылася, прыйшоў да нас, беларусаў, позна. Але, можа, і сама запозненасць прыходу — паказчык сілы, бо ж каб уваскрэснуць цераз чатыры стагоддзі — дзеля гэтага патрэбная была сапраўдная звышэнергія!

Але пры гэтым ніяк нельга не ўспомніць і пра два этапы проста здзіўляльнай для вялікага маўчуна Купалы нястрымманасці ў слове: гэта аб яго публіцыстыцы 1919—1920 гадоў, гэта аб яго празе выгаварыцца ў апошнія для яго саракавыя гады — у 1919-20 гадах ён выпісаўся; выгаварыцца на пачатку 40-х гадоў не дало яму КДБ. Мы сёння ўсё можам цытаваць з купалаўскай публіцыстыкі 19—20-га гадоў — з іх незалежніцкай ідэяй, з іх верай у Адраджэнне Беларусі і з іх разуменнем стану нацыянальнага руху. Аптымізм быў, бо Купала адкрыта радаваўся трыумфальным шэсцем адраджэнскай ідэі па землях Беларусі, падкрэсліваючы, што ўсяго толькі 15 год пайшло на

**(Працяг на стар. 6).**

# ЯНКА КУПАЛА— НАША БУДУЧЫНЯ

(Пачатак на стар. 5).

ўзняццё ўсенароднасці Адраджэння. Ды бачыў паэт і насланнё забабоннасці, што трымала Беларусь і беларусаў у сваёй пашчы. Пашчы тае пасля сямідзесяці гадоў таталітарызму і дэнацыяналізацыі толькі пабольшала, толькі яшчэ больш трагічным стаў лёс нашага Адраджэння. І не зважаць на тое нельга, як нельга не бачыць, як звузілася ўласна-народная, вясковая і мястэчковая база беларушчыны ў Беларусі, як насельніцтва Беларусі без ніякага энтузіязму ўспрыняло яе дзяржаўны суверэнітэт, як супраціўляецца самому ходу беларусізацыі, адмахваецца ад незалежніцкай ідэі, ідэй нацыянальнага Адраджэння. Усё гэта ёсць як ёсць, але будзе не як было. І Беларусь усё-ткі дасць свету прыклад, што не толькі войскам, крывёй можа ўсталёўвацца дзяржаўная суверэннасць, Бацькаўшчына, але і сілай Паэзіі. У сярэднявеччы такога здзейсніцца не магло, — пры канцы XX стагоддзя такое можа здзейсніцца, і здзейсніцца перш за ўсё па Купалу.

Яшчэ яго не выклікалі ў ГПУ, прымушаючы прызнацца ў палітычным лідэрстве на Беларусі, у арганізацыі СВБ — Саюза Вольнай Беларусі, а ён ужо да таго, у 1929 годзе, пісаў Л. М. Клейнбарту — свайму першаму біёграфу, што палітыкі як сродку дзейнасці не прымаў і, дзе была палітыка, туды не ўвязваўся. Не будзем, аднак, зважаць, на недакладнасць самахарактарыстыкі, бо як публіцыстыка Купалы 19—20 гадоў, як і яго антымясніканская, антыкнорынаўская лірыка перыяду жыцця ў Смаленску, так і бунтоўная барацьба Янкі Купалы-паэта супраць цара, памешчыкаў, сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, супраць чарнасоценцаў, супраць польскіх шавіністаў — усё гэта было і вялікай палітыкай. Але ўрэшце Паэт выбраў Паэзію і толькі Паэзію...

Мы дасюль якраз менш за ўсё заўважалі менавіта гэтую духоўную эвалюцыю Янкі Купалы. Бунтоўнай, адраджэнска-патрыятычнай была ўся творчасць Янкі Купалы да 1915 года. Няхай у ягонай п'есе «Раскіданае гняздо» адзін з яе драматычных вузлоў і звязваўся з супрацьстаяннем гандысцкай ідэі дабра добрым шляхам дасягаць — любоўю, ласкай, спагадлівасцю — і ідэі адкрытага — з сякерай у руках непрымірэння і руйнавання, менавіта сутыкнуўшыся з ўсерасійскай рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной, і асабліва з дыктатурай, Янка Купала ў першых жа сваіх вершах 1918 года парваў «з крывавай верай». Сымон з «Раскіданага гнязда» нёс кроў і пажар, Янка Здольнік з п'есы «Тутэйшыя» 1922 г., як Францішак Скарына, найперш пры кнізе, пры духоўнасветлым пачатку. І калі ў той жа п'есе Здольнік вяшчаў, што Беларусь — для беларусаў, то гэта перш за ўсё ў яго і ў Янкі Купалы азначала, што Беларусь — не для каланізатараў, Беларусь — для самазацвярджэння ў ёй Беларускага Адраджэння.

Дык хто герой нацыі для Янкі Купалы — Сымон з «Раскіданага гнязда» ці Янка Здольнік з «Тутэйшых»? Для Янкі Купалы 1929 года, калі адпрэчваўся ад палітыкі, ужо ні Сымон не быў героем, ні Янка Здольнік... Дык хто?.. Не хто, а што, — Паэзія!..

І хто тут што хай ні гаворыць, але ад забыцця ў XX стагоддзі нас, беларусаў, выратавала перадусім паэзія — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін. Пачалося Янкам Купалам, працягваецца яго іменем, з будучыні кліча — яго ж іменем .Жыць Купалаваму слову, — жыць Беларусі. Жыве Беларусь!

# Чытач «Нашай Нівы» з хутара Далібор

## Яшчэ адзін штрышок да творчай біяграфіі Янкі КУПАЛЫ

*Ляж, прытуліся да зямлі,*
*Паслухай шчыра, што гавора*
*Табе, сям'і і ўсёй радні,*
*Калі запаліць неба зоры.*

*Пачуеш дзіўную аповесць*
*Мінуўшай славы і жыцця,*
*Аб чым згубіўшы ты ўжо*
*даўно весць,*
*Блукаючыся без пуцця.*

Янка КУПАЛА.
«Брату-беларусу».

Вяртаецца да нас многае са спадчыны Янкі Купалы, а разам з тым і гісторыя яго твораў, жыцця, яго асяроддзя.

Сімвалічная назва верша «Брату-беларусу». Сімвалічная таму, што творчасць Янкі Купалы звернута і да ўсяго народа, і да кожнага асобнага чалавека. Упершыню верш «Брату-беларусу» быў апублікаваны ў газеце «Наша Ніва» ў верасні 1913 года. У пасляваенныя выданні паэта верш не ўвайшоў,— магчыма, з-за беспадстаўнага абвінавачвання ў нацыяналізме. І толькі ў 1988 годзе ў часопісе «Полымя» з'явілася публікацыя вершаў Янкі Купалы розных гадоў, сярод якіх — і гэты верш.

У вершы паэт звяртаецца да свайго народа, яго годнасці, гісторыі, выказвае свой боль за прыніжанае становішча народа, імкнецца абудзіць яго «магільны сон...» У звароце да брата-беларуса паўстае высакародная постаць паэта, які:

Я бараніў твой дух ад плесні,
Аб думы шчыра тваe дбаў
І паўтараю вотклік песняў,
Што прадзед з ветрамі складаў.

Верш такога гучання не змог не знайсці водгуку ў душы беларуса: у рэдакцыю газеты «Наша Ніва» прыйшоў ліст, датаваны наступным днём пасля публікацыі верша — 30 верасня 1913 г. Селянін-беларус Сцяпан Зенчанка з хутара Далібор Віцебскай губерні даслаў у газету «Наша Ніва» на імя паэтаў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і П. Лукоўскага, вершы якіх былі апублікаваны 29 верасня, ліст на рускай мове. Ліст захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея Янкі Купалы (прыводзіцца на мове арыгінала):

**«Привет певцам родного края! Янке Купале, Максиму Богдановичу, П. Луковскому и всем стихотворцам «Нашей нивы». Напечатанные стихи в «Нашей ниве» производят на читателя всегда глубокое впечатление, особенно последнее «Брату-беларусу» Я. Купалы. Спасибо дорогим певцам, спасибо!..**

**Я очень жалею, что белорусской речью не могу написать для «Нашей нивы» что-нибудь. Хотя свободно читаю и понимаю, ибо сам белорус.**

**Посылаю редакции «Нашей нивы» свою статью «К родной Белоруссии». И очень был бы благодарен, если бы в редакции перевели эту статью по-белорусски и напечатали бы в «Нашей ниве».**

**Нельзя ли это будет сделать! Остаюсь с глубоким уважением к Вам.**

**Крестьянин-белорус**
**Стефан Зенченко**

**1913 сент. 30 Адрес: ст. Идрица, Витебск, губ. хутор «Далибор».**

Перагортваем пажоўклыя старонкі «Нашай Нівы» за далёкі 1913 год. І нарэшце, у нумары ад 17 кастрычніка, знаходзім артыкул С. Зенчанкі «Да роднай Беларусі» («Біблейныя матывы») — вялікі, цікавы матэрыял.

А зараз можна прыпомніць купалаўскія вершы, адзін з якіх нават носіць назву «На біблейныя матывы» (1920), другі— «Прарок» (1915), паэтычнае пераасэнсаванне біблейскага матыву. (Аўтографы вершаў знаходзяцца ў фондах музея). Такім чынам, матэрыял селяніна-беларуса мог знайсці водгук у душы паэта.

Узнікае пытанне: хто пераклаў артыкул і якое дачыненне

# На Волзе, у Пячышчах

Супакоеная пад прыгнётам плацін электрастанцый нясе ў Каспій свае воды вялікая руская рака. Вялікая руская... гэта значыць Волга, а калі быць геаграфічна больш дакладным, яна такая ж руская, як чувашская, марыйская, татарская і нават крыху калмыцкая.

На берагах гэтай інтэрнацыянальнай ракі ёсць і маленькі куточак нашай Бацькаўшчыны. Гэта Купалаўскі музей у пасёлку Пячышчы Верх-Услонскага раёна Татарыі.

Калі плыць на цеплаходзе ўверх па Волзе ад Казані, Пячышчы нельга не заўважыць. Паблізу ад пасёлка зялёны ўбор раслін прыволжскіх узгоркаў парушаны бялеючымі пластамі вапнякоў і даламітаў, раней працуючым тут вапняковым заводам. Завода даўно няма, але на беразе захаваліся руіны велізарных печаў, яны і далі пасёлку імя.

Бялеючы ўзгорак — гэта першая славутасць Пячышчаў, другая — былы механічны млын купца Акольнікава. Млын захаваўся і сёння, там знаходзіцца Пячышчынскі камбінат хлебапрадуктаў, галоўнае месца працы жыхароў пасёлка.

Купалаўскі ж дом у Пячышчах — трохпавярховы будынак, пакрыты адвечным млынавым пылам. Першапачаткова ён задумваўся як заводакіраўніцтва, цяпер ён шматфункцыянальны: пункт аховы здароўя, сталовая, кватэра дырэктара, інтэрнат, музей.

Музей у Пячышчах звязаны з пражываннем паэта ў перыяд акупацыі. Тут Уладзіслава Францаўна, жонка Купалы, атрымала паведамленне аб яго смерці ў Маскве 28 чэрвеня 1942 года.

Чаму Купала пасяліўся менавіта тут, у гэтых мясцінах? Пячышчы — за 20-25 кіламетраў ад Казані, буйнога горада і культурнага цэнтра. Разам з тым жыць у Казані, горадзе з велізарнай колькасцю ваенных заводаў, было небяспечна, а ў Пячышчах працаваў хлебакамбінат, адсюль кожны дзень хадзіў параход з хлебам у Казань. Быў у Пячышчах у Купалы і асабісты аўтамабіль, але параход быў больш надзейны і не трэба было клапаціцца пра бензін, запчасткі.

Музей займае тры невялікія пакоі купалаўскай кватэры. Адзін пакой служыў сталовай і кухняй, другі — рабочым кабінетам, трэці — спальняй. У Пячышчах Купала з'явіўся ў кастрычніку 1941 года і жыў амаль 8 месяцаў — да лета 1942 года. Аб жыцці паэта ў Пячышчах у «ЛіМе» за 27 кастрычніка 1989 года былі надрукаваны матэрыялы Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага (пад псеўданімам Г. Мсціславец).

Стваральнікі музея паспрабавалі аднавіць абсталяванне кватэры песняра тых грозных гадоў. У кабінеце вялікі стол абцягнуты зялёным сукном, на ім чарніліца, люлька, кісет, бюст паэта, выкананы скульптарам А. Раберманам. У спальні — геаграфічная карта, копія трысціны, ложак, кніжная паліца.

Магчыма, некаторыя рэчы сапраўдныя, але высветліць гэта не ўдалося, за апошнія гады змянілася некалькі загадчыкаў, і ў музеі няма сапраўднага гаспадара, сама магчымасць пагляздець музей ажыццявілася толькі дзякуючы прыбіральшчыцы Веры Міхайлаўне Будрынай. На жаль, яна не змагла назваць цяперашняга загадчыка, які жыве ў Казані, але так было не заўсёды. У 1983—1986 гадах музей актыўна працаваў: наведвальнікі шмат разоў выказвалі падзяку яго супрацоўнікам.

# ВАБІЛА МАГІЛЁЎСКАЯ ЗЯМЛЯ

Асноўнай крыніцай звестак аб першым наведанні Горак Янкам Купалам з'яўляецца паведамленне газеты «Савецкая Беларусь» ад 17 чэрвеня 1925 года «Янка Купала ў Горы-Горках». З яе мы даведваемся, што пясняр пабываў там 6 і 7 чэрвеня. У першы дзень прымаў удзел ва ўрачыстым сходзе і сямейным вечары, прысвечаным выпуску студэнтаў рабфака, дзе чытаў свае вершы. Назаўтра госці аглядалі батанічны сад, гулялі па парку. Янку Купалу віталі ўдзельнікі раённай настаўніцкай канферэнцыі, вучні. Дзяўчынкі ў нацыянальных касцюмах паднеслі два букеты руж і румянку (эмблема творчасці паэта). На гары «Парнас», маляўнічым узвышэнні на ўскраіне парку, сярод зялёных дубоў і ліп гаварыліся прамовы, дэкламаваліся вершы, гучалі песні. Увечары 7 чэрвеня Купала прысутнічаў на аб'ядналым пасяджэнні навуковага таварыства па вывучэнні Беларусі і секцыі навуковых супрацоўнікаў сельгасінстытута. Янка Купала і іншыя госці былі залічаны ганаровымі сябрамі таварыства. Паездка была прымеркавана да 20-годдзя пачатку літаратурнай дзейнасці.

**Другі прыезд Купалы ў Горкі адбыўся ў канцы лістапада 1925 года. Як паведамляла газета «Савецкая Беларусь» у нумарах за 1 і 2 снежня 1925 года, «28—29 лістапада Горкі святкавалі адчыненне Акадэміі. З Мінску прыехалі: намеснік старшыні Саўнаркому т. Карклін, Валасевіч, Прышчэпаў, Чарнушэвіч, Левін, Доўнар-Запольскі, Краскоўскі, Смоліч, Некрашэвіч, Друшыц, Купала, Колас, тры прадстаўнікі Ціміразеўскай акадэміі, прадстаўнік НКЗ РСФСР, прадстаўнікі прафесараў і партыйных арганізацый, рабочыя, сяляне Горацкага раёну Клімавіцкай акругі і інш.».**

Гэта, так сказаць, афіцыйныя паведамленні. Але ж хочацца пра паездкі песняра ведаць больш падрабязна. У час літаратурна-краязнаўчай экспедыцыі ў Горкі мне давялося пазнаёміцца з А. Лебедзевым, выкладчыкам кафедры анатоміі, былым прарэктарам па завочным навучанні БСГА. У той час ён, вучань выпускнога класа, разам з аднакласнікам сустракаўся з паэтам.

**— Сустрэча адбылася на пляцоўцы гары Парнас, — расказвае Ігар Аляксандравіч. — Знешне Купала выглядаў стрыманым, засяроджаным і маўклівым, сканцэнтраваным, відаць, на нейкіх сваіх думках. Скупы на словы і ўсмешкі, ён разам з тым быў вельмі ветлівы і просты ў абыходжанні. Адчувалася, што ў душы перажываў вялікую радасць ад такой урачыстай сустрэчы, шчыра, па-сяброўску дзякаваў за прывітанні і пажаданні.**

Пасля школы І. Лебедзеў паранейшаму жыў у Горках, афармляў дэкарацыі ў новым будынку студэнцкага клуба (ці, як яго яшчэ называлі, «тэатра»), які ў тэрміновым парадку быў пабудаваны з нагоды пераўтварэння сельгасінстытута ў акадэмію.

**— Будынак быў драўляны, аднапавярховы, — вяртаецца ў лістападаўскія дні 1925 года Ігар Аляксандравіч. — Мы з хваляваннем рыхтавалі яго да прыезду гасцей. Памятаецца, у дзень урачыстасцей пайшоў дождж і на сценах месцамі пацяклі раўчукі. Але святочны настрой ва ўсіх быў такі вялікі, што ніхто не звяртаў увагі на недаробку будаўнікоў. Я асабліва пільна сачыў за паводзінамі Купалы і Коласа. Яны былі збуджаныя, не маглі схаваць прыўзняты настрой.**

На жаль, драўляны будынак студэнцкага клуба не захаваўся — быў знішчаны ў час вайны гітлераўцамі.

Трэці прыезд Купалы ў Горкі адбыўся ў лютым 1928 года. Тады літаратурнае аб'яднанне «Полымя» накіравала ў Оршу Цішку Гартнага, Янку Купалу, Міхася Зарэцкага, Андрэя Александровіча, Алеся Дудара і Міхайлу Грамыку. Як пісаў Алесь Дудар у сваіх падарожных нататках аб гэтай паездцы «Полымя» ў Аршаншчыне» («Савецкая Беларусь», 18 і 19 лютага 1928 года), члены пісьменніцкай брыгады пасля выступлення ў Аршанскім гарадскім тэатры ноччу з 11 на 12 лютага на цягніку адбылі ў Горкі.

**«Дзве гадзіны — і вось яны, гэтыя Горкі — горад падобны на мястэчка і побач з імі стогадовая акадэмія — той гадавальнік, што падрыхтоўвае для Беларусі гэтак патрэбных ёй спецыялістаў па сельскай гаспадарцы, — зазначыў А. Дудар.— Горацкія настаўнікі аказаліся такімі самымі шчырымі і гасціннымі людзьмі, як і настаў-**

мае Янка Купала да яго?

Па-першае, звернемся да жыцця паэта. Пасля заканчэння вучобы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева Янка Купала пераязджае з Пецярбурга ў Вільню ў верасні, 8 кастрычніка 1913 г. прапісваецца там, працуе сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства. У гэты ж час Янка Купала працуе ў газеце «Наша Ніва» — да 7 сакавіка 1914 г. супрацоўнікам, а пасля яе рэдактарам. Такім чынам, можна меркаваць, што ў падрыхтоўцы нумара ад 17 кастрычніка прымаў удзел і Янка Купала.

А вось сведчанне самога паэта, яго ліст да першага бібліёграфа Л. М. Клейнбарта. На пытанне «Якую ролю ён адыгрываў у «Нашай Ніве»? Я. Купала ў лісце ад 11.1.29 г. піша (прыводзім на мове арыгінала):

**«Приходилось все делать. Исправлять рукописи, в особенности стихотворения, переводить с польского, русского или украинского языков, делать корректуру, помогать в экспедиции газеты и т. п., все это приходилось делать потому, что штат работников был очень ограничен. Это в 1908—1909 гг. В 1913—1915 гг. (до эвакуации из Вильни) я уже был ответственным и фактическим редактором «Нашай нівы». Тут тоже было работы масса. Штат редакции состоял из меня и Бядули. На нашей обязанности лежало написать номер, прокорректировать и выпустить в свет. Конечно, материалы поступали и со стороны. Вспомнить все эпизоды за время моего пребывания в «Нашай ніве» я не в силах по той простой причине, что это заняло бы целый том воспоминаний».**

З гэтага вынікае, што Янка Купала мог атрымаць гэты ліст з матэрыялам і перакласці яго для публікацыі. Пераконвае ў гэтым і змест матэрыялу, які быў блізкі да светапогляду паэта. Прачытаем матэрыял С. Зенчанкі. Аўтар ва ўзнёслай форме распавядае пра сваю любоў да Бацькаўшчыны, расказвае, што доўгі час не па сваёй віне быў ён адарваны ад яе, пабачыў свет, але мілей за сваю радзіму не знайшоў.

**«...Ад Невы да Аркаса, ад Чорнага да Белага мора. Павідаў я і мірныя воды Лабы (Эльбы) і светлыя Рэйна і зялёныя склоны Карпатаў... Я бачыў дрымучыя пушчы, ня ткнёныя рукой чалавека, і любаваўся шырынёй стэпаў. Я ўзбіраўся на грамадзіўшыеся за хмарамі вярхоўкі гор і купаўся ў водах цёплых марэй і ў тыя ж мінуты я заўсёды ўспамінаў цябе, Беларусь, тваю бедную прыроду. І твае бязлюдныя балоты здаваліся мне мілей за вырайную (тропікаву) зелень каўказкіх далін. У такія мінуты, калі ты, Бацькаўшчына, уваскрасала ў маіх думах — сэрца маё пачынала дрыжаць і нейкая вялікая сіла цягнула мяне да цябе...»**

**Далей С. Зенчанка звяртаецца да Бацькаўшчыны: «Мілая Бацькаўшчына! Перажыўшы гадзіну цяжкіх проб і расчараванняў, душэўных трывог і мук, угнятаючага тужлівага адзіночаства — я ізноў стаю каля твайго парогу і як блудны сын жду прыветлівага ад цябе слова...**

**Пусці мяне да сябе і дай мне ўбачыць родныя палі, каторыя ўзгадавалі мяне, узыйсці на зялёныя сенажаці, пакрытыя стракатымі красками, каторыя песцілі мяне ў дзіцячую пару, выкупацца ў ціхай рэчцы ў засені плакучых верб. Дай паслухаць шум старога бору, з каторым звязана сівая старасветчына майго роднага гнязда...**

**...О Бацькаўшчына мая! І сонца тваё ўсміхаецца адменна неяк ласкава і цёпла. Абразы тваіх старэнькіх хатак, з іх паросшымі мохам стрэхамі і насяляючымі іх беднымі людзьмі, — усё акружаючае мяне тут, радуе душу маю...»**

Селянін Сцяпан Зенчанка ў празаічнай форме выказаў тую любоў і замілаванне Бацькаўшчынай, якую таленавіта на ўвесь голас выказваў Янка Купала ў сваіх лепшых творах. Як тут не нагадаць цудоўны верш паэта 1915 года «Бацькаўшчына»:

**З зямлёй і небам звязывае мяне ніць —**
**Неразарваная веквечна павуціна:**
**Зямля мяне галубіць, як вернага сына,**
**А сонца мне душу не кідае туліць.**
**Яшчэ ў калысцы я навучыўся з песень сніць**
**Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах,**
**Што роднай нівы я мільённая часціна,**
**Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць.**

У кожнага паэта свой патаемны складаны свет, у Купалы — гэта свет сонца, зорак, зямлі. Не кожны можа спасцігнуць гэты свет. І тым каштоўней глыбінная еднасць светаадчування, якая з'яднала простага селяніна і вялікага песняра.

**Фаіна ВАДАНОСАВА,**
**заг. навукова-экспазіцыйнага аддзела Літаратурнага музея Янкі Купалы.**

На Беларусі ведаюць аб музеі ў Пячышчах, літаратурны музей Янкі Купалы падтрымлівае з ім сувязі. Свае кнігі пра песняра падарыў Алег Лойка, творы паэта прыслалі яго родныя.

Што нясе гэты музей людзям, якія зярняты сее ў сэрцах сваіх наведвальнікаў?

Пагартаем кнігу водгукаў.

«Мы ганарымся, што на нашай Верх-Услонскай зямлі жыў і тварыў выдатны беларускі паэт.

21 мая 1988 года».

«З трапятаннем уваходзіла я ў гэту скарбніцу. Цудоўны музей! Выразна аднаўляе абставіны тых часоў, так і адчуваеш прысутнасць самога пісьменніка. Як хораша, што існуе такое месца, сапраўдная Мекка для прыхільнікаў яго творчасці.

2 чэрвеня 1990 года».

Большасць наведвальнікаў — жыхары Верх-Услонскага раёна або Казані, але ў музеі бываюць і нашы суайчыннікі, і не *толькі тыя, што жывуць на Беларусі*. Асабліва прыемна бачыць запісы па-беларуску тых, хто шмат гадоў як пакінуў родную зямлю.

«Шчырае дзякуй стваральнікам гэтага музея ад земляка Янкі Купалы, які шмат гадоў жыве тут, у Казані, далёка ад Роднай Зямлі.

1 кастрычніка 1983 года».

А вось запісы вучняў з Беларусі, якія трапілі ў Пячышчы пасля Чарнобыля:

«Мы, вучні СШ № 1 Мазыра, шчыра ўдзячны татарскаму народу, які ўшаноўвае памяць аб беларускім паэту-песняру, паэту-змагару за народнае шчасце.

30 чэрвеня 1986 года».

Застаецца толькі далучыцца да вучняў з Мазыра і пажадаць музею светлай будучыні.

**Г. РЫДЗЕЎСКІ,**
**А. БОЛАТАЎ,**
**сапраўдныя члены Геаграфічнага таварыства Рэспублікі Беларусь.**



*Я. КОЛАС і Я. КУПАЛА. 1935 г*

**нікі аршанскіх сямігодак. Спаткалі яны нас як не трэба лепей».**

Была нядзеля, і госці наведалі мясцовы рынак.

Знаходзячыся падоўгу ў Ляўках, непадалёку ад Горацкага раёна, Купала мог наведаць Горкі і неафіцыйна. Тут было ў яго шмат сяброў — жыла П. Мядзёлка, працавалі выкладчыкамі пісьменнікі М. Гарэцкі і Ю. Гаўрук, браты М. Гарэцкі і Г. Гарэцкі. Паэт быў добра знаёмы з дырэктарам акадэмічнай бібліятэкі Д. Новікавым.

Апошні раз Янку Купалу давялося пабываць у Горках у пачатку вайны. Пакінуўшы 30 чэрвеня 1941 года дачу ў Ляўках, паэт з сям'ёй у той жа дзень дабраўся да Горак. Забег на работу да свайго добрага знаёмага і сябра Д. Новікава. Паколькі ўжо была другая палавіна дня, гаспадар прапанаваў начлег. Але Купала адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што Горкі могуць бамбіць, а вось вёску Горы, якая за пятнаццаць кіламетраў ад горада, наўрад ці фашысцкія сцярвятнікі дастануць. Д. Новікаў неаднойчы расказваў сябрам аб сваёй апошняй сустрэчы з Іванам Дамінікавічам і Уладзіславай Францаўнай, збіраўся напісаць успаміны, але не паспеў. Яго вусны расказ памятаюць некаторыя мясцовыя краязнаўцы. Жыхарка Горак, загадчыца аддзела вучэбнай літаратуры акадэмічнай бібліятэкі Г. Казленка захавала ў памяці некаторыя дэталі і падрабязнасці, звязаныя з дружбай Янкі Купалы з Д. Новікавым.

**Пра яго варта сказаць некалькі слоў. Дзям'ян Рыгоравіч (1896—1976) — арганізатар і нязменны дырэктар (1919—1976) бібліятэкі БСГА, актыўны прапагандыст літаратуры, вялікі аматар прыроды. Вучыўся ў Горацкім землямерна-агранамічным вучылішчы разам з братам М. Гарэцкага Г. Гарэцкім. З 1932 па 1975 гады з'яўляўся старшым выкладчыкам БСГА. Увесь час сумяшчаў асноўную работу з грамадскай пасадай дырэктара садова-паркавай гаспадаркі (1923—1976). Пры яго непасрэдным удзеле і пад яго кіраўніцтвам тэрыторыя акадэмгарадка ператворана ў адзін з прыгажэйшых прыродных куткоў Беларусі. З Купалам пазнаёміўся ў 1925 годзе. Знаёмства перарасло ў сяброўства. Цікава, што адзін з гатункаў вяргіняў, выведзеных пры ўдзеле Д. Новікава, у гонар паэта быў названы «Купала». Шкада, што гатунак гэты загінуў у час вайны і больш не аднаўляўся.**

Існавала вершаванае прысвячэнне Купалы, адрасаванае непасрэдна Д. Новікаву — стваральніку бібліятэкі ВНУ. Называлася яно «Сярод дубоў і ліп адвечных». Аб гісторыі яго ўзнікнення расказала мне Г. Казленка. Новікаў часта цытаваў па памяці дарагія яму радкі. Верш меў недзе 8—10 чатырохрадкоўяў.

Які ж далейшы лёс гэтага твора? Разам з перапіскай, фатаграфіямі з падарункавымі надпісамі паэта, кнігамі з аўтографамі і іншымі рэліквіямі арыгінал загінуў у агні вайны. На жаль, верша ніхто не запісаў, не засталося яго і ў архівах Новікава. Не памятае дакладна верш і Г. Казленка.

**У 1938 годзе паэт падараваў *бібліятэцы акадэміі некаторыя* асобныя выданні сваіх твораў, у тым ліку паэмы «Над ракой Арэсай». Асабіста Д. Новікаву былі ўручаны зборнікі вершаў «Беларусі ардэнаноснай» (1937) і «Избранные произведения. Стихи» (1938) з аўтографамі. У хатнім альбоме Д. Новікава доўгі час захоўваліся тры здымкі — два групавыя і адзін — *партрэтнага тыпу*. На апошнім Купала — з ордэнам Леніна на грудзях. Здымак Новікаву ўручыў сам паэт у 1940 годзе ў Мінску, куды той заязджаў па дарозе з Масквы, дзе прысутнічаў на прыёме ў М. Калініна разам з групай навуковых работнікаў, удастоеных урадавых узнагарод.**

Нельга не ўспомніць пра апошні начлег Купалы на роднай зямлі ў вёсцы Горы. Аб тым, што пясняр правёў сваю апошнюю ноч менавіта ў гэтай вёсцы, успамінаюць яе старэйшыя жыхары — Я. Гурэвіч і С. Маляроў. Купала з сям'ёй спыніўся на начлег у доме дырэктара льнозавода Гутмана. Дом стаяў ля самай дарогі, ён у вайну згарэў, на тым месцы зараз пабудаваны новы.

Завёў я аднойчы гутарку аб знаходжанні Купалы на Магілёўшчыне са старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы (цяпер ужо нябожчыкам) А. Коршунавым, ураджэнцам Горскага сельсавета. І высветлілася, што Коршунаў, закончыўшы ў чэрвені 1941 года першы курс БСГА, знаходзіўся ў роднай вёсцы Палешына на канікулах, а ў дзень праезду Янкі Купалы праз Горы якраз дзяжурыў у сельсавеце. Ён добра памятаў той час, калі аўтамабіль, на якім ехаў паэт, спыняўся каля будынка сельсавета, Янка Купала доўга размаўляў з людзьмі, а потым уладкоўваўся на начлег.

**Міхась НЯХАЙ.**

# ЭКСПРОМТ, АЛЕ ЦІ З ТАЕ НАГОДЫ?..

**Як вядома, Янку Купалу і Паўліну Вінцэнтаўну Мядзёлку праз усё жыццё звязвалі самыя цёплыя пачуцці. Аб іх няспраўджаным каханні хораша напісаў у сваёй кнізе «Як агонь, як вада...» Алег Лойка. У дадатак да сказанага можна прывесці сведчанне і самой Мядзёлкі, якое, дарэчы, дапамагае высветліць гісторыю напісання верша «Быў гэта сон...».**

**У лісце да Л. А. Сівіцкай (Зоські Верас) Паўліна Вінцэнтаўна ўспамінае, як у канцы 1914 года яны з Купалам сядзелі ўдваіх за адным столікам у «Зялёным штралі», і Купала нечакана прапанаваў ёй выйсці за яго замуж. Тады яна адказала, што кахае другога, яго ж любіць толькі як выдатнага паэта.**

**«На наступны вечар, — піша Мядзёлка, — Янка прыйшоў да Штраля, калі ўжо мы невялікай грамадкай *сядзелі* за столікам. Янка быў пахмурны, маўклівы. Праз колькі хвілін прабурчаў мне ціханька: «Усю ноч не мог заснуць. І вось напісаў. На, прачытай, — і падсунуў мне лісток з напісаным алоўкам вершам: «Быў гэта толькі сумны сон...».**

**Таксама вядома, што ў доме Купалы ў 1925-35 гады жыў брат Мядзёлкі, Сігізмунд, з якім Купала сябраваў, чытаў яму свае вершы. Дык вось, у 1931 г., калі Паўліна Вінцэнтаўна была на высылцы ў Казані, да яе прыязджаў гэты самы брат і з-паміж іншага прывёз ад Купалы верш «Снілася дзяўчыне...». Згодна ж звестак энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» (1986) гэты верш быў «напісаны ў Пецярбургу ў сувязі з пастаноўкай п'есы «Паўлінка» 9.02.1913». Адпаведна гучыць і каментарый да *верша: «Верш-экспромт з'яўляецца паэтычным каментарыем і абагульненнем вобраза, створанага пісьменнікам і ўвасобленага Мядзёлкай на сцэне... Процівастаўленне мары і сапраўднасці («Снілася дзяўчыне...— А на яве выйшла...») адпавядае драматызму, закладзенаму ў аснову камедыі «Паўлінка».***

**Гэтая трактоўка верша супадае з той, што была зроблена да яго ў 1958 г. у кнізе «Янка Купала ў беларускім мастацтве» (укладальнікі У. Ф. Луцэвіч, А. А. Есакоў) і вельмі абурыла Паўліну Вінцэнтаўну. У лісце да Л. А. Сівіцкай яна піша: *«А я ж, калі передавала* рукапіс гэтага верша Янкі Купалы ў музей, казала яму (Есакову А. А. — П. Н.) і Уладцы Купалісе, што гэты верш Янка Купала пераслаў мне праз майго брата ў 1931 г., калі была на высылцы ў Казані. А той літаграфскі экземпляр «Паўлінкі» з прысвечаным мне вершам у 32 радкі выпрасіў у мяне Рамуальд Зямкевіч у Лодзі ў 1921 г., каб перафатаграфаваць яго, выпрасіў на 2 гадзіны і знік з маіх вачэй разам з гэтым экземплярам. І ўсё ж, нягледзячы на маё тлумачэнне ў акадэмічным выданні твораў Янкі Купалы гэты верш датаваны 1913 г., а ў каментарыях такі самы вымысел. Ды што агульнага мае гэты верш з вобразам Паўлінкі? Курам на смех!».**

**Каб даць чытачу мажлівасць ацаніць вартасць «памылкі», нагадаем верш:**

Снілася дзяўчыне
Квецістае поле,
А на яве вышла —
Палыны, чуголле.

Снілася дзяўчыне
Воля і багацтва,
А на яве вышла —
Няволя, жабрацтва.

Снілася дзяўчыне
Дома жыць да смерці.
А на яве вышла —
Ў чужакоў памерці.

**Як бачым, «простая» змена даты (з 1913 на 1931 год) кардынальна мяняе наша прачытанне верша, дазваляе па-новаму ацаніць грамадскую пазіцыю паэта ў складаныя 30-я гады. Апрача таго, паўстае і пытанне пра лёс сапраўднага верша-прысвячэння сцэнічнай Паўлінцы. Можа, мы ведаем яго, але пад іншай назвай? Ці адшукаецца аўтограф?**

**Павел НАВОЙЧЫК.**

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**



## Бяларучы

Бяларучы блакітныя —
Крынічка Беларусі.
Плыве пачатак ліпеня
Над ціхаю вярбой,
Плывуць аблокі белыя,
Махаюць крыллем гусі...
Спадарыня Купаліха
Усміхаецца з журбой.
Хвіліны незабыўныя
Ва ўладзе цёткі Уладзі!
Былі яе запросіны
Для кожнага — закон.
Ля доміка драўлянага,
Як на вялікай радзе,
На той Зямлі стаялі мы,
Дзе рос, вучыўся Ён.

А хлопчыкі бялявыя,
Як сонца залатыя,
Нагадвалі сабою
Ягоны родны твар.
Глядзела я
і верыла,
Што падрастуць малыя
І спадчыну Купалаву,
Як лепшы прымуць дар.

Бяларуцкія хлопчыкі!
Душой не ачарсцвейце
І будзьце духу верныя,
Прыгожыя сабой.
Хай слова беларускае
Прымаюць вашы дзеці!
...Здалёк глядзіць Купаліха,
Усміхаецца з журбой.

●

Я выстаяць, выцерпець, людзі,
гатова
Самую доўгую ў свеце чаргу—
Па светлую ўсмешку,
па добрае слова,
Я не магу пазіраць на тугу.

О, я настаялася ў чэргах
ваенных!
Сніла акраец і шэрую соль...
Прагну з даўнейшаю прагай
нязменнай
Сёння суцішыць ваш смутак
і боль.

Хворым прынесці слова
спагады,
Згаслую ўсмешку хутчэй
адрадзіць.
Кожнай, знясіленай чэргамі,
рада
Промнік надзеі сваёй падарыць.

## Ёсць вера

А я залежу ад надвор'я
І ад замглёнага сузор'я,
Ад сумных вачанят дзяцей —
Ім выжыць сёння ўсё цяжэй...

Залежу я ад свежых ран,
Што выдае тэлеэкран,
І ад чарнобыльскага страху,

---

*Барыс Пятровіч*

# Мроі



*«Кожны піша, як ён дыша».*
*Булат АКУДЖАВА.*
(Вольны пераклад на «трасянку»).

□

Раскінуўшы ногі на шырыню сваіх плеч, на дубе сядзеў пугач. Сядзеў і думаў.

Ягоныя суродзічы даўно паляцелі на паляванне, каб паспець за кароткую летнюю ноч здабыць ежыва. Ён жа не спяшаўся ўслед за імі. Ён думаў.

Проста пад дрэвам, на якім ён сядзеў, распачалі валтузню і смачны піск мышы. Пугач схамянуўся, зглытнуў сліну, падняў крылы і прыкрыў імі вушы. Мышы перашкаджалі яму. Ён думаў.

Замест зорак на небе паступова пачалі вымалёўвацца маленькія і вялікія воблакі. Спачатку цяжкія: чорныя, потым лёгкія: белыя. Святло пачало свой нічым няспынны наступ на цемру. Пугач ведаў гэта. Але святло было яшчэ далёка, і ён толькі трохі прыплюшчыў вочы. Ён думаў.

І вось першы сонечны прамень слізгануў па вершаліне дуба, а потым балюча прайшоўся сваім вострым лязом па вачах пугача.

Пугач страпянуўся, узмахнуў крыллем і зляцеў з дуба.

Я не ведаю, пра што ён думаў.

□

Пры ўсім пры тым вечар быў вельмі ціхі і сарамлівы. Не было ў ім ні свежасці, ні паху бэзу, як звычайна бывае ў беларускай вёсцы. І ўсё ж гэта быў вечар. Паўнакроўны, моцны сабою, нехта сказаў бы нават — каржакаваты. І гэта таксама было б праўдай, калі б... не абгрызены муштук, які згубіў учора дзед Лаўрэн у горадзе, на Савецкай вуліцы, непадалёк ад кнігарні. Там яшчэ побач выставачная зала Саюза мастакоў месціцца, а далей — помнік апошнім героям - камсамольцам. За помнікам— інтэрнат, у якім доўгія тры дні жыў я некалі ў адной маёй знаёмай, калі мая знаёмая паехала да сваёй знаёмай у Кіеў. У Кіеве і я прабыў з месяц, не больш, а вярнуўшыся, зайшоў у інтэрнат да знаёмай. Зайшоў, каб сказаць:

— Вечарам у ДК фантастыку круцяць... Я пайду.

— Білеты я ўжо набыла. На, мо загоніш?

— Няма праблем.

На прыступках ДК гуў натоўп у чаканні лішняга білецііка. Прыемна прайсці міма заклапочаных людзей, зацяўшы ў руцэ дзесятак білетаў і, ніводнага не прадаўшы, зайсці ў залу і заняць цэлы рад крэслаў. А потым, калі нехта памкнецца сесці побач, перапыніць яго:

— Тут занята, зараз прыйдуць, во білеты.

Але білеты не спатрэбіліся. Правадніца пусціла нас у цягнік, нат не спытаўшы пра іх. Прыладкаваўшыся да бліжэйшага століка, мы сталі чакаць, калі падыдзе афіцыянт. Неўзабаве ён з'явіўся — у белым халаце, белым каўпаку, з белымі, выцвілымі, вачыма.

— Што будзеце піць? — спытаў ён спрытна.

Напіўшыся сцюдзёнай крынічнай вадзіцы, мы пачапілі берасцяную конаўку на раздвоенае дрэўца, дзе яна віселя раней. Трэ было йсці далей: шлях няблізкі. Пляцакі зноў урэзаліся ў грудзі і мы пакрочылі наперад, не нагінаючыся да грыбоў і ягад, што сціпла раслі злева і справа ад сцяжынкі. У трэцім вагоне мы спыніліся, селі. Афіцыянт нешта пазніўся. Ды і іншыя столікі былі пустыя. І крэслы — увесь рад направа ад мяне глядзеў кіно без сядакоў. А фільм, што за фільм быў?

— Ведаеш, я не памятаю, нешта дужа аморфнае... — адказаў я знаёмай і прылёг побач.

Пахла бэзам. А вечар той быў самы сарамлівы. Хай сабе і першы, які я правёў далёка ад роднай вёскі, так і не даехаўшы да Кіева. І няхай даўно памёр дзед Лаўрэн, муштук ягоны жывы, і зараз нагадвае ён мне пра тыя тры дні, кожны вечар з якіх быў падобны да сённяшняга.

□

*Дождж шапацеў па лістоце.* Нудотны, без пачатку і канца: я заспеў яго на сярэдзіне. Дождж шапацеў і перашкаджаў пачуць, пра што гаманілі тыя двое пад адным парасонам. Чым яны зацікавілі мяне, чаму я спыніўся на гэтым прыпынку паводдаль ад іх? З твару яны былі падобнымі адзін да аднаго, як мой адбітак у люстэрку да мяне. Але апранутыя — не як блізняты: па-рознаму. Я набраўся смеласці і падышоў бліжэй. Яны дамаўляліся ўжо пра новую сустрэчу і адзін тлумачыў другому, як дабрацца да прызначанага мейсца:

— На 62-м «Т» даедзеш да трэцяй Зялёнай, потым на хуткасным ліфце опусцішся на пяты Узровень, сядзеш на 193-ці «М», выйдзеш на шостай Чырвонай, тут пачакаеш 76-ты «Е» і даедзеш да дваццаць першай Зялёнай. Зноў спусцішся на тры Узроўні і на 101-ым «К» праедзеш сем прыпынкаў да пятнаццатай Ружовай. Там, на прыпынку, я і буду цябе чакаць.

— Прабач, але я дрэнна арыентуюся пакуль ва ўсіх гэтых колерах, нумарах і ўзроўнях. Таму, будзь ласкавы, запішы мне, каб не наблытаць.

І галасы іхнія былі падобныя, і міміка. Яны настолькі былі занятыя сабою, што, здаецца, не заўважалі мяне і зусім забыліся пра нейкую асцярожнасць.

— Устыла-а... — прастагнаў першы,— і калі гэта скончыцца?..

У другога, у таго, што стаяў тварам да мяне, заблішчэлі ў вачах слёзы.

Падышоў 287-ы «Ц» да пятай Блакітнай. Першы, нат не развітаўшыся, хуценька ўскочыў у расчыненыя дзверы. Другі застаўся пад парасонам.

«Шчаслівыя... — падумаў я і пайшоў, — шчаслівыя... І ўжо двое...» — крокі мае запавольваліся і раз-пораз я азіраўся на прыпынак, дзе стаяў пад парасонам не мой двайнік.

□

Цень мухі паўзе па сцяне — вялізны, быццам мыш. Хворы Антось ляжыць у ложку і назірае за ім. Муха паўзе па нябачнай нітцы, што вісіць каля лямпачкі, потым лёгка злятае з ніткі і пачынае нейкі незразумелы рытуальны танец вакол лямпачкі. Да яе далучаецца яшчэ адна муха, яшчэ, яшчэ і яшчэ... Вось ужо чорнае кола з шумам аблятае лямпачку, вось ператвараецца яно ў шар, які аблеплівае лямпачку, нібы абажур. У хаце робіцца цёмна, як на вуліцы. І тады заўважае Антось, што ля парога свецяцца нечыя вочы. «Кот», — думае ён, нагінаецца, дастае з-пад ложка пантофель і з крыкам «Апсі-ік!» кідае ў парог.

Жаночы віск адтуль прымушае Антося ўздрыгнуць. Тым часам на фоне дзвярэй пачынае вымалёўвацца жаночая постаць. Яна ўсё святлей і святлей, усё выразней і выразней. Дзяўчына ідзе да ложка. «Голая!»—з жахам бачыць Антось. І цягнецца ягоная рука да начніка, які вісіць над ложкам і пра які ён толькі зараз узгадаў. Дзяўчына набліжаецца, яе рукі ўжо над ложкам... Антось пстрыкае ўключальнікам...

Крык! Страшны, немы крык жанчыны!..

У пакоі пуста. Толькі на падлозе лужына крыві. Яна павольна расцякаецца...

□

Самая сур'ёзная размова якую я гутарыў здарылася аднойчы пад вечар у доме што рос пры дарозе і вокны ягоныя сляпілі вочы адзінокіх падарожных сваім брудным чырвоным колерам размазаным неахайным малярам на паўнеба і каб яшчэ трохі і сонца нашае стала б назаўсёды камуністычна-чырвоным бо няма ў свеце ярчэйшых ідэалаў чымсьці тыя якія вычытаў неяк Фрыдрых Энгельс у Карла Маркса і падарыў людзям разліўшы па кроплі ў кожны том ягоных і сваіх твораў сціпла выдадзеных летась па-беларуску выдавецтвам «Политиздат» у Маскве адкуль у 1917-м годзе зляцелі ўсе арлы ў цёплыя заморскія краіны каб жыць і не радавацца за тое што з кожным годам квітнее іхняя бацькаўшчына крывавым колерам які не схаваць нават шчыльна пераплеценым калючым дротам з якога ні адзін каваль на свеце не ўзяўся б выкаваць кальчугу для волата на гліняных нагах што хацеў падскочыць вышэй за галаву але наклажыў у штаны і ўсе пра гэта адразу ж даведаліся не зважаючы на закрытыя межы і лепшыя ў свеце заглушальнікі «галасоў» якім анічога не заставалася раней як казаць праўду бо выдумаць такое было немагчыма.

□

— Купляйце ката! Купіце ката!..

— Колькі просіш?

— Зараз палічым... Кожны квадратны міліметр — капейка. Перамножым. 25 тысяч на адзін мінус два нулі... — дзвесце пяцьдзесят... Купіце?

— Даю дзвесце.

— А-а-а... бяры.

— Я падумаю.

— Не пашкадуеце. На паўшапкі хопіць. А суп, што за суп... Пальчыкі абліжаце. Вы елі калі-небудзь суп? І я не еў. Але чытаў, што нашае пакаленне будзе есці суп!

— Я купіў бы. І грошы ў мяне пры сабе. Не здзіўляйцеся, што нашу такія вялікія грошы з сабою — куды ж падзець іх, калі нават апошнюю набедраную павязку ў мяне ўчора ў трамваі перапоўненым укралі. І не адчуў нават — во мастакі! А, можа, вы параілі б мне, дзе можна павязку набыць? Ведаю, ведаю, што цяжка, ведаю, чым рызыкуеце... Але я вам тады талон на паўлітра вады дам — суп зварыце. Згода?

— Паўлітра вады!!! Бярыце маю. Новенькая! Новая. Вось тут трохі працёртая — дзед мой непаседлівым рос. За партаю так і круціўся... Шкадаваў потым пра гэта ўсё жыццё, плакаў, калі паміраў, але... Бярыце...

— Не, што вы. Як я магу забраць дарагі вам успамін. Не... Хіба што, калі вы так настойваеце... Вось вам талон... Ну, здымайце... Цеснаватая троху, ды нічога, не прывыкаць, разносіцца... Цяпер бы я й ката ў вас купіў, ды вады няма...

— Сёння будзе ў нас з жонкаю маленькае свята. Нарэшце ёсць і вада, і кот разам... Пайду атавару талон... Эх... Нябось, зайздросціш мне? Бачу, бачу...

— Хавайся!.. Міліцыянт ідзе!..

— Дзе? Эх... Няма ў жыцці шчасця. Трымай свой талон. Здымай павязку.

□

Крызіс набліжаўся няўмольна. Лячэбня была перапоўнена хворымі, якія трызнілі, крычалі, прасілі лекаў. Іх давалі. І тады адыходзілі хворыя па двое, па трое, а калі трэба было—морг прымаў і больш. Знаходзіўся ён у глухім куточку ля самай бальнічнай агароджы і каля яго заўсёды дзяжурыў малады чалавек у брунатным світэры. Калі прыходзіў сюды чарговы хворы, ён пытаўся у яго худым хісткім голасам: «Можа, табе твой... (тут ён называў нейкае кароткае слова, якое я аніяк не мог пачуць) ужо непатрэбны, дык аддай яго мне...» Звычайна хворыя аддавалі яму ўсё, што мелі, і голыя знікалі за дзвярыма трупярні. А ён тады выходзіў на вуліцу, да бліжэйшага тралейбуснага прыпынку, і па чарзе шаптаўся з застылымі ў чаканні людзьмі. Ад чалавека да чалавека стаўкі раслі. Падыходзячы да апошняга, мажнага мужчыны з каўказскімі вусамі на паўтвару, ён казаў: «Сівы дае па трыццаць... І я гатовы аддаць..:» Каўказскія вусы прапаноўвалі трыццаць пяць і забіралі ўсю партыю.

Гэта паўтаралася з дня на дзень. Усё скуплялі вусы, і чаму стаялі на прыпынку іншыя, я не ведаю. Мажліва, і сапраўды чакалі тралейбуса.

□

Воглы туман стаміў сабою вочы, і калі я выйшаў з лагчыны на сонца, кветкі пахлі на ўвесь нос. Былі кветкі жоўтыя— губастыя, і чырвоныя — языкатыя. Назваў я ім не прыдумаў, бо не хапіла часу добра разгледзець: сонца зноў зайшло за высокую скалу і наваколле ахутала сапраўдная чорная паўднёвая ноч, пра якую дома казалі — цёмна, хоць вока выкалі. Вока я выколваць не стаў — гэта было б занадта,—а проста прысеў на нейкі пянёк ля ног, каб перачакаць цемрыва. Пянёк незадаволена варушыўся пада мною, нешта бурчэў сам сабе, але нікуды не ўцякаў: куды пабяжыш у такую цямрэчу...

Нехта вялікі, пралятаючы паўз мяне, чырканулў крылом мне па скроні і нябачная ліпкая кроў тонкім цурачком пацякла за каўнер. На свежы пах крыві пачалі адусюль спаўзацца, сыходзіцца нейкія істоты. Я адчуваў іх смярдзючае дыханне, яны казыталі мае ногі, працягваючы свае доўгія целы, аднак напасці на мяне не адважваліся. Яны, пэўна, бачылі мяне і ноччу, і дзівіліся невядомаму зверу. Гэта іх і стрымлівала. Я думаў: дзе ж хаваюцца яны, гэтыя агідныя, брыдкія стварэнні ўдзень, калі светла, калі коціцца між хмараў сонца? Бо колькі я ні йшоў — вакол былі толькі дзіўнай прыгажосці кветкі.

Віншуем!

# Роздум з нагоды

**Народнаму артысту Беларусі Генрыху ВАГНЕРУ — 70**

Мора кветак, прыўзняты настрой, усмешкі на тварах — у зале філармоніі ў той вечар панавала святочная атмасфера. Аўтарскі канцэрт да нагоды юбілею аднаго з найбольш аўтарытэтных нашых кампазітараў прафесара Генрыха Вагнера сабраў даволі стракатую аўдыторыю. Тут вядомыя дзеячы нацыянальнай культуры, паважаныя музыканты, студэнцкая моладзь, падлеткі... Кожны нумар праграмы выклікаў бурную рэакцыю публікі. Музыка яркая, выразная. Яна захапляе і кранае душу...

Здаецца, творы ўсё знаёмыя, не раз чула іх у канцэртах і па радыё, аналізавала са студэнтамі, але вось у выкананні сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё рэспублікі пад кіраўніцтвам В. Лявонава загучалі яны неяк інакш, зайгралі новымі фарбамі. Падумалася: як добра, што ёсць у нас дырыжор-творца. І яшчэ: калі гэтая музыка не страціла з цягам часу прывабнасць і новае пакаленне знаходзіць у ёй нешта сваё, — значыць, гэта сапраўднае мастацтва.

Канцэрт адкрыўся адным з апошніх пакуль што твораў кампазітара — вакальна-сімфанічнай паэмай «Чытаючы Васіля Быкава» (салісты Н. Руднева і М. Навумчык). Зварот да ваеннай тэмы сёння, калі модным зрабілася мімаходзь адмесці яе як састарэлую, а то і кан'юнктурную? Так, бо антываенная пазіцыя літаральна выпакутавана кампазітарам. Афарбаваная ў глыбока асабістыя тоны, гэтая тэма зрабілася магістральнай у ягонай творчасці.

Вялікі рэзананс у культурным жыцці Беларусі канца 50-х гадоў мела вакальна-сімфанічная паэма Г. Вагнера «Вечна жывыя». Гэты лірыка-трагедыйны твор кранаў сваёй эмацыянальнай узрушанасцю, выразнасцю нацыянальнай інтанацыі. У той час ён здаваўся вельмі свежым па музычнай мове. Нездарма ж ім так зацікавілася моладзь. Памятаю, як мы, тады вучні музычнай школы, наладзілі сустрэчу з Генрыхам Матусавічам, каб падрабязна распытаць пра ўпадабаны намі твор. Між іншым, ад кампазітара мы даведаліся, што паэма прысвечана памяці яго родных, якія былі знішчаны ў Варшаўскім гета ў гады Другой сусветнай вайны. Сёння гэты твор трывала ўвайшоў у залаты фонд беларускай музыкі.

Значную ролю ў развіцці савецкага музычнага тэатра адыграла створаная на пачатку 80-х гадоў опера Г. Вагнера «Сцяжынаю жыцця» па матывах аповесці В. Быкава «Воўчая зграя». Можна спрачацца пра адпаведнасць музычнай канцэпцыі оперы яе літаратурнаму прататыпу, *пра метады ўвасаблення* самабытнай быкаўскай прозы ў музычнай інтанацыі, аднак майстэрства музычнай драматургіі з яе шырынёй сімфанічнага дыхання, тэатральная выразнасць музыкі кульмінацыйных сцэн з іх моцным эмацыянальным уздзеяннем, здаецца, відавочныя. Уражвае музычна-паэтычная метафара оперы — просты напеў беларускай народнай калыханкі, які ў працэсе развіцця вырастае ў сімвал гуманізму.

Аднак быкаўская тэма не была вычарпана ў гэтым творы. І вось зноў зварот да яе, зноў вобраз партызанскай мадонны, на гэты раз у абагульненай музычнай форме. І — новае вырашэнне, падказанае кампазітару паэтыкай і драматургіяй народнай балады.

Своеасаблівa ўжыты фальклорны элемент — характэрная рыса творчасці Г. Вагнера. Нацыянальныя карані адчуваюцца і ў прадстаўленай у аўтарскім канцэрце Першай сімфоніі кампазітара. Унутраны свет мастака паўстае тут шматпланава, у адзінстве процілеглых яго бакоў. Вытанчаная лірыка суседнічае ў сімфоніі з дынамічнымі вобразамі, філасофскі роздум змяняецца актыўным дзеяннем. Твор вельмі яркі і маляўнічы па аркестравым каларыце.

Першая сімфонія была створана ў 1970 г. ужо сталым майстрам, і, думаю, у ёй сканцэнтравалася найбольш істотнае з ягонага светаўспрымання. Любоў да жыцця ва ўсіх яго праявах, вера ў светлыя ідэалы... Сёння, калі пачалася пераацэнка савецкага мастацтва, найбольш заўзятыя яго крытыкі схільны кожную праяву аптымізму трактаваць як канфармізм або прыстасавальніцтва да афіцыйнай ідэолага-эстэтычнай дактрыны. Але ці можна не ўлічваць чалавечыя якасці мастака, яго псіхалогію? Усе, каму хоць раз даводзілася гаварыць з Генрыхам Матусавічам, не маглі не адчуць яго абаяльнасць. Ён не падобны да іншых: рэдкае пачуццё гумару, кіпучая энергія, незвычайны грамадскі тэмперамент, шчырасць у адносінах да людзей. Ён артыстычны і лёгка ўключаецца ў гульню. Назіральны і ўмее дакладна схапіць нейкія характарыстычныя рысы сяброў і дасціпна спарадзіраваць іх. Усе гэтыя якасці адбіваюцца і на музыцы кампазітара.

Бадай, самая адметная рыса яго творчага мыслення — тэатральнасць: яркасць вобразаў, іх жанравая акрэсленасць. Разнастайныя формы руху, міміка, жэст абумовілі пластыку яго музычнай інтанацыі. Можа, таму асабліва ўдала працуе Г. Вагнер у жанры балета. На сцэне ДАВТа Беларусі ў розныя гады былі *пастаўлены* «Падстаўная нявеста» (1958), «Святло і цені» (1963), «Пасля балю» (1971).

На жаль, не ў традыцыі нашага акадэмічнага музычнага тэатра захоўваць у рэпертуары лепшыя нацыянальныя пастаноўкі. Зразумела, ёсць сярод іх і тыя, што карысталіся значным поспехам у свой час, як, напрыклад, другі балет Г. Вагнера, а сёння маральна састарэлі. Але лёс балета па матывах апавядання Л. Талстога «Пасля балю» іншы. У 70-я гады ён нядоўга пратрымаўся на сцэне, на што, думаю, вельмі паўплывалі хібы харэаграфічнага вырашэння спектакля. Дарэчы, у канцэрце мы пачулі сюіту з гэтага балета, музыка якой уразіла сваім харaством, высакароднасцю і... відовішчнасцю: нават у неспецыяліста перад вачамі паўставалі *харэаграфічныя вобразы*. І зрабілася крыўдна, што музыка гэтая не гучыць у оперным тэатры. У пагоні за ўсё новым і найноўшым мы страчваем ужо набытыя культурныя каштоўнасці. А можа,



# Давер з першага позірку

**Ёсць «Тызенгауз-капэла»**

ЗЛЯЦЕЛА з пяра: «Тызенгауз-капэла», — і нованароджаная супольнасць гродзенскіх музыкантаў набыла імя. Праўда, пакуль толькі ў лімаўскіх нататках пра стварэнне і першы канцэрт капэлы...

Каб уявіць маштаб асобы Антонія Тызенгауза, ацаніць зробленае ім для развіцця мастацтва на беларускіх землях, дастаткова глянуць у энцыклапедыю. Лепей жа разгарнуць кнігу «Музыкальный театр Белоруссии» ці пазнаёміцца з навуковай навінкай — дыхтоўнай працай Г. Барышава па гісторыі беларускага тэатра 18 ст. Але, на жаль, гэтыя выданні проста не могуць быць ва ўжытку кожнага зацікаўленага чалавека. І таму толькі, што выдаўцы зрабілі з іх бібліяграфічную рэдкасць, абмежаваўшы тыражы некалькімі сотнямі экземпляраў — на гора і аўтарам, і чытачам. Быццам бы на Беларусі не набярэш і тысячу «культурных».

Пра тое гаворка мае быць асобная... Ну, а што ж Тызенгауз, гродзенскі староста?

Жорсткі, у адносінах да сваіх прыгонных, магнат. Дасведчаны аматар мастацтваў, збіральнік нотнай бібліятэкі. Славалюбівы мецэнат, які вёў ліставанне з Гайднам, Русо. (Апошняга ён нават запрашаў пагасцяваць «у літоўскіх лясах» — Белавежскай пушчы). Тызенгауз намагаўся зрабіць Гродна цэнтрам культуры агульнаеўрапейскага кшталту, адкрыў у горадзе шэраг навуковых, навучальных устаноў. У 70-х гадах 18 ст. стварыў уласны прыдворны тэатр, пераважна з опернабалетным рэпертуарам. Неўзабаве поруч з заходнееўрапейскімі талентамі, запрошанымі працаваць па кантрактах, выступалі ўжо выхаванцы Гродзенскай музычна-тэатральнай школы, найперш дзеці беларускіх прыгонных ды мяшчан.

«Я дазволіў тое, што ў больш развітых краінах бачыў і ў невялікіх мястэчках», — пісаў А. Тызенгауз каралю. Прычым свае дзеянні ён трактаваў як толькі клопат пра «цывілізацыю тутэйшага краю», даводзіў, што тэатр неабходна падтрымліваць «толькі ў імя асветы, а не ў імя даходаў».

Сёлета, быццам салідарызуючыся з гэтымі мудрымі словамі Тызенгауза, нашчадкі ягонай справы таксама дзеля асветы, а не дзеля даходаў заладзілі ў горадзе капэлу. Фактаў хапае, каб пераканацца: маладой гродзенскай інтэлігенцыі ёсць што помніць-шанаваць і ёсць што адраджаць. Новы парастак ад старых каранёў наўрад ці ўзышоў бы праз 200 год, каб не пажыўны пласт культуры далёкіх часоў (яшчэ ў 1543 г. горад меў адзін з першых аркестраў на беларускіх землях, т. зв. «літоўскую капэлу» з мясцовых спевакоў, інструменталістаў), каб не традыцыі нядаўняга 19 ст. (аркестр І. Дабравольскага, дзейнасць «Паганіні ў спадніцы», беларускай скрыпачкі Т. Юзафовіч-Бароўскай). І, вядома, каб не спрыяльнае культурнае асяроддзе сённяшняга горада і каб не падтрымка адраджэнскіх працэсаў з боку т. зв. афіцыйных структур.

Сумняваецеся наконт афіцыйнай падтрымкі? Патлумачу. Летась на пленуме Саюза музычных дзеячаў, прысвечаным вынікам І фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», было вырашана, сярод іншага, садзейнічаць утварэнню гэткіх музычных структур (аналагічных традыцыйным для культуры 18 ст. на беларускіх землях) у месцах іх гістарычнага існавання. Прыдатная сітуацыя для ажыццяўлення адраджэнскай ідэі склалася ў Гродне. Туды (не мінула і месяца пасля фестывалю!) і выправіліся парламенцёры ад СМД на чале з намеснікам старшыні праўлення Н. Вітчанкай. Плён перамоваў з гарадскімі ўладамі засведчыла сама назва нататкі, змешчанай неўзабаве ў нас: «Будзе і капэла Тызенгауза». А ўжо ўвесну меў адбыцца гродзенскі фестываль старадаўняй музыкі з удзелам беларускіх энтузіястаў адраджэння і замежных выканаўцаў. Вызначыўся расклад, рыхтаваліся да друку праграмы, і раптам — «няма грошай»: банальна-ганебная фраза, гэткае ўсюдыіснае дзіця інфляцыі.

Ну, дык бывай, шляхетная ідэя, натхнёная імем Тызенгауза?..

І тут — нібыта ў беспрасветласці запалілася свечка — прыляцела з Гродні добрая вестка: на 26 мая прызначаны першы канцэрт капэлы.

●

Жылі ж мы неяк і без слова «прэзентацыя»! Але што ж тады было ў Гродне: прэм'ера? дэбют? адкрыццё? знаёмства? урачыстае прадстаўленне? Бадай, увесь гэты лексічны набор аддала б я за адно кароткае слова, здатнае перадаць-пазначыць саму сутнасць і атмасферу падзеі: **цуд!** (А для людзей з, так бы мовіць, неразвітым пачуццём цуду, хай будзе «прэзентацыя»).

«Прэзентаваным цудам» падаваўся ўжо сам горад, амаль незнаёмы, з якім лёс звёў калісь мяне на адзін толькі кароткі восеньскі дзень, і таму цяпер адкрывала яго наноў. Ну хіба не цуд — ацалелая рэліквія ў старым парку, рэлікт нават, — былы тэатр Тызенгауза, цяпер Гродзенскі лялечны! Невялічкі, ладненькі, як прыгожая старая цацка. І капэла, і школа — тыя самыя! — былі непадалёк. Плошчу паблізу мусіць назавуць імем Тызенгауза... Хоць і не ў тэатры будзе сталы прытулак адроджанай капэлы (такое памяшканне пакуль не вызначана, цяжкасці з пошукам месца і для зводных рэпетыцый), яе творчае хрышчэнне адбывалася на гістарычных падмостках: добры знак!

У адрозненне ад знакамітага гаспадара прыдворнай капэлы, мастацкі кіраўнік і дырэктар капэлы гарадской мае абмежаваныя адміністрацыйныя правы, сціплыя фінансавыя магчымасці, тузін праблем, але і свой імідж. Гэта ўжо добра вядомы ў рэспубліцы малады кампазітар Андрэй Бандарэнка, самабытны мастак і энергічны арганізатар, адзін з першых ініцыятараў утварэння ў Гродне такога унікальнага творча-выканаўчага сімбіёзу: камерны аркестр плюс камерны хор. (І кампазітар побач...). Можна толькі марыць пра такую ідэальную мадэль у нашым цяперашнім канцэртным жыцці, дзе аркестравыя ды харавыя калектывы існуюць аўтаномна, гады ў рады сустракаючыся для ўвасаблення буйных вакальна-сімфанічных *партытур*.

Канечне, кампазітара цешыць мажлівасць супрацоўніцтва з унікальным выканаўчым складам. І гэта не замінае ягонай прафесійнай патрабавальнасці (у тым ліку да сябе), крытычнасці ацэнак, хаця творчы патэнцыял, сугучнасць поглядаў партнёраў-музыкантаў А. Бандарэнку радуе.

Камерны аркестр, які ўжо добра ведаюць у горадзе (існуе другі сезон, мае сваю публіку), узначаліў цягавіты й перспектыўны дырыжор Уладзімір Борматаў. Гэты калектыў стварыць было лёгка: канкурэнцыі няма, небагата ў горадзе прафесіяналаў, здольных да такой справы. Аркестр сабраў пераважна педагогаў музычных навучальных устаноў. А харавых калектываў у Гродне аж чатыры, з іх адзін выбітны склад «скамплектаваць» — ці мажліва? Затое, на думку А. Бандарэнкі, ёсць адзін харавы дырыжор, мастак, здольны стварыць сапраўды творчы, мабільны калектыў. Гэта выкладчык музвучылішча Ларыса Іконнікава, яна і ўзначаліла хор капэлы.

Чаго яшчэ хацець для творчай працы! Чаму ж постаць усё таго ж Тызенгауза дакорам становішчу цяперашняму падаецца? Дбаў продак пра прэстыж капэлы, культываваў пры двары «самае-самае», шанаваў музыкаў ды артыстаў сваёй гадоўлі... Што, сёння хіба не так? Вунь з якой удзячнасцю гавораць пра тых, хто ўсёй душою падтрымаў ідэю музычнага адраджэння роднага горада і не пашкадаваў на гэта сродкаў з мясцовага бюджэту. Старшыня гарвыканкома С. Домаш, ягоны намеснік А. Мілінкевіч, загадчыца аддзела культуры І. Кліменка рэальна дапамаглі аформіцца гэтаму цуду пасярод бязладдзя — гродзенскай муніцыпальнай «Тызенгауз-капэле» (карціць называць яе гэтак!). Да канца года вылучана датацыя, удзельнікі абодвух калектываў залічаны на працу (па-

# НА «КРЭСАХ» БЕЗ ПЕРАМЕН?

## Чытаючы рэдакцыйную «польскую» пошту

НЕДЗЕ з месяц назад мне ў рэдакцыю нечакана пазванілі з Масквы. Высветліўшы, *што ён трапіў менавіта* ў рэдакцыю «ЛіМа» і слухае яго менавіта Васілеўскі, чалавек з таго канца провада, нават *не павітаўшыся*, узняў крык: «Ваша газета не имеет права называться газетой творческой интеллигенции, если она печатает такое!» Потым было заяўлена, што я сваёй публікацыяй нанёс яму асабістую абразу. Гэта мяне вельмі здзівіла, бо мае артыкулы звычайна прысвечаны беларускім тэмам, і, значыць, грамадзян суседняй краіны не датычаць. А тут —«оскорбил!», ды яшчэ «лично». Давялося запытаць масквіча, хто ён такі і чаго яму трэба. «Я независимый польский интеллектуал»,—далей ішло прозвішча, якое я ўпершыню пачуў, і ўдакладненне, што ён жыве «в стране, оккупированной большевиками». Бач ты, як ён пра Ельцына, — падумалася мне... Аднак развіваць тэму бальшавіцкай акупацыі Расіі на дадзеным этапе «независимый интеллектуал» не стаў і вярнуўся да тэмы лімаўскіх публікацый.

Як высветлілася з далейшай размовы, ягонае абурэнне выклікаў артыкул «Якія словы напішам?..» («ЛіМ», № 18 за 1 мая), а канкрэтна—стаўленне аўтара гэтых радкоў да «акаўцаў» і ўвогуле пілсудчыкаў як да злачынцаў, якія высокімі словамі маскіравалі брудныя справы. Гэты чалавек з тэлефона, відавочна, быў сталага ўзросту, але пра спаленыя «акаўцамі» беларускія вёскі, разбураныя праваслаўныя храмы, пра закатаваных польскімі бандытамі беларускіх сялян і інтэлігентаў, мабыць, пачуў упершыню. І ягоная польская псіхіка адмаўлялася ўспрымаць гэтую інфармацыю. Маўляў, не могуць быць палякі бандытамі—і ўсё тут! На тым і скончылася наша размова. Маскоўскі паляк са сваім абурэннем, я — са сваімі сумнымі думкамі...

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што так званыя «палякі» і нямала палякаў сапраўдных пазбаўлены здольнасці бачыць Польшчу ў рэальным святле, без рамантычнага флёру і «патрыятычнай» рэтушы. *Яны нібыта і ведаюць*, што няма ў свеце народа, які б складаўся выключна з герояў і пакутнікаў, але... упэўнены, што на Польшчу гэты закон не распаўсюджваецца. Адсюль агрэсіўнае, амаль істэрычнае непрыманне хоць якой крытыкі ў адрас Польшчы, успрыманне непахісных фактаў (скажам, *дакументальна засведчаныя* злачынствы «акаўцаў» і пілсудчыкаў на Беларусі і Украіне) як абразу польскаму гонару.

Тыя ж думкі прыходзяць, калі чытаеш некаторыя лісты актывістаў «Саюза палякаў на Беларусі» ў рэдакцыю «ЛіМа». Вельмі пільна сочыць за публікацыямі на «польскую» тэму жыхар Гародні таварыш Т. Малевіч. Магчыма, штодзённая «чытанка» ўваходзіць у ягоныя службовыя абавязкі. Не інакшай, як ён фіксуе ў сваім дасье, хто, калі і што сказаў, напісаў ці падумаў крыўднае пра «палякаў», палякаў і Польшчу. *Свае лісты* да нас гэты пільны таварыш падпісвае гучным тытулам «Член главного правления Союза поляков Белоруссии, сопредседатель Международного комитета защиты прав поляков Белоруссии поляк Тадэуш Малевич». Гучнаму тытулу адпавядае і высокі літаратурны стыль Т. Малевіча. Даслаўшы нам у рэдакцыю выпіску з нейкай польскай газеты, ён забяспечыў яе такім вось узорам «прыгожага пісьменства»: «*Тухлым и мелкоплавающим* национал-шовинистам к сведению и руководству в работе. Статью можно (и даже желательно) напечатать в «ЛіМе». Поляк Тадэуш Малевич. Гродно». Амаль што «Л. Брежнев. Москва, Кремль».

Ветэраны газетнага слова памятаюць, як у даперабудовачныя часы падобнага зместу і стылю «ценные указания» — «можно (и даже желательно) напечатать...» — накіроўваліся (звычайна ў вуснай форме) у рэдакцыі з ЦК КПБ. Ці не ад шчыльных кантактаў з камуністычнай наменклатурай у мясцовых «палякаў» гэты камандзірскі стыль? Праўда, цэкоўскія «ЦУ» былі без абразлівых зваротаў. Так што адчуваецца стылёвая эвалюцыя.

Дарэчы, доліс, змешчаны ў польскай газеце і дасланы т. Малевічам у «ЛіМ», апавядаў пра «чарнобыльскіх» дзяцей з Беларусі, што праводзілі ў Польшчы свае канікулы. Намёк даволі празрысты... Такім чынам «поляк Тадэуш Малевич» хацеў нас ушчуцыць. Маўляў, тым часам, як «ЛіМ» друкуе «*антыпольскія*» матэрыялы Ю. Закрэўскага, А. Сідарэвіча, П. Васілеўскага, Польшча клапоціцца аб беларускіх дзецях.

Але ж гэтая нататка з прыпіскай т. Малевіча прыйшла да нас якраз тады, калі газеты Беларусі паведамлялі пра тое, што польскія ўлады ствараюць перашкоды руху праз сваю тэрыторыю германскіх аўтапаяздоў з лекамі і іншай гуманітарнай дапамогай дзецям Беларусі — ахвярам Чарнобыля. Рух на дарогах Польшчы германскіх грузавікоў з эмблемай Чырвонага Крыжа абумоўліваецца шэрагам абсурдных патрабаванняў, запаўненнем непатрэбных (у цывілізаваных краінах) папер. А галоўнае, польская мытня абкладае гуманітарныя грузы з Германіі, што ідуць транзітам на Беларусь, Украіну, Расію, велізарнай пошлінай. Так што каму — гора, а каму — бізнес. Нехта ў Польшчы ў той час рабіў дабрачынную справу, беручы на сябе клопат аб беларускіх дзецях (праўда, як вядома, для вандровак у Польшчу па «чарнобыльскай» лініі адбіраліся найперш дзеці католікаў-«палякаў»), а нехта (прычым, на дзяржаўным узроўні) рабіў на чужой (беларускай) бядзе і чужой (нямецкай) дабрачыннасці грошы.

Нагадаю яшчэ адзін узор калектыўнай творчасці кіраўніцтва «Саюза палякаў на Беларусі», дзе яўна дамінуе стыль Т. Малевіча. З ліста *Генеральнаму пракурору* Беларусі:

**«Как показала жизнь, остановить или прервать наше польское национальное возрождение в Республике псевдонаучные и псевдоисторические «статьи» и «высказывания» таких трубадуров антипольской шовинистической кампании, как Пушненковой, Цвирки, Сидоревича, Климовича, Гилевича и Островского, в любезно предоставивших им свои страницы «ЛіМе», «Гродненской правде» и «Бярозке», не смогли. ...Злобная, агрессивная и примитивно-омерзительная статья «Можа, надыдзе час...» Я. Шунейки в «ЛіМе» от 10 января 1992 г. ясно показала, что наши надежды оказались напрасными, а наши обращения проигнорированными».**

У дадзеным выпадку варта адзначыць, што сярод «трубадуров антипольской шовинистической компании» мясцовы *«паляк» Тадэуш Малевіч не называе* польскага паляка Земавіта Фэдэцкага, чый матэрыял «Гісторыя змарнавых шанцаў», накіраваны супраць польскага шавінізму, і ягоны ж ліст у падтрымку Ю. Закрэўскага пераклаў для «ЛіМа» (№ 2 за 10 студзеня) Я. Шунейка. Ведае «крэсавяк» сваё месца, разумее субардынацыю. Не яму варшавяніна ўшчуваць... А вось з беларусамі можна дазволіць - сабе паблажліва-зневажальны тон. Так сяржант «вучыць жыццю» шарагоўцаў, але завіхаецца перад афіцэрам: «Паважаныя «лімаўцы»! Давайце жыць дружна, бо не будзеце вы «людзьмі звацца». Я вам гэта гарантую на міжнародным узроўні».

Ажно так! Што тут сказаць? Маніякальна-агрэсіўны стан і манія велічы — гэта чыёй кампетэнцыі?

Канфлікт паміж беларусамі і «палякамі» ўжо перайшоў у тую стадыю, калі міжволі ў свядомасці ўзнікаюць параўнанні з Карабахам ці, у лепшым выпадку, з Ольстэрам. І гэта, зразумела, хвалюе многіх чытачоў нашай газеты. Пенсіянерка з Гомеля В. Буговіч піша: «Ці ж *так галоўнае тое*, хто паляк, хто беларус. Бог жа ў нас адзін — Ісус Хрыстос. Зямля ж у нас адна — наша маці Беларусь». Цяжка не згадзіцца! Вось толькі слова «Беларусь» у вуснах розных людзей мае розны сэнс. Для кагосьці — гэта губерня Расіі, «Северо-Западный край», «Западная Россия». Для другога ж Беларусь — шкодная бальшавіцкая выдумка з мэтай адарваць ад Польшчы яе «ўсходнія крэсы».

Але, дзякуй Богу, для большасці з нас Беларусь — маці-Радзіма, і мы хацелі б бачыць яе гаспадыняй ва ўласнай хаце. І тут не можа быць кампрамісу, згоды з тымі, хто, жывучы на Беларусі, азіраецца на Маскву ці Варшаву. Бо такая згода была б здрадай, такая «талерантнасць» — беспрынцыпнасцю. Кампрамісы магчымы толькі да пэўнай мяжы...

Звернем, дарэчы, увагу на назву арганізацыі, якую прадстаўляюць таварышы Малевіч і Гавін. «Zwiazek Polaków na Bialorusi» чамусьці перакладаюць як «Саюз палякаў Беларусі». Больш дакладны будзе літаральны пераклад «Саюз палякаў на Беларусі». Гэты нюанс надае назве іншы сэнс: не «палякі Беларусі», а тым болей не «беларускія палякі», а нейкае экстэрытарыяльнае ўтварэнне накшталт дыпламатычнага прадстаўніцтва. Ды і паводзяць сябе «палякі на Беларусі» на беларускай зямлі так, нібыта яны грамадзяне іншай дзяржавы. Як што не так — нота пратэсту, пагроза паскардзіцца ў міжнародныя інстанцыі (раней болей скардзіліся ў Маскву). Таго і глядзі запросяць для абароны сваіх інтарэсаў вайсковыя кантынгенты заходняга суседа Беларусі.

Дарэчы, ці можна лічыць актам дружалюбства з боку Польшчы канцэнтрацыю войск на мяжы з Беларуссю? (Польскі ўрад пераводзіць на ўсход войскі, што раней стаялі на мяжы з Германіяй.) І як гэта ўплывае на настроі беларускіх «палякаў», ці не надае ім ваяўнічасці?

Унутрыбеларускія праблемы, іх міжнародны розгалас хвалююць шчырых беларусаў за мяжою. Спадар М. Гардзей з Англіі *даслаў нам у рэдакцыю* шэраг матэрыялаў польскага эміграцкага друку, з якіх вынікае, што польскія таварыствы *за межамі Польшчы* (ці не са згоды Варшавы?) шчыруюць у справе «вяртання крэсаў усходніх».

**«Перасылаю Вам, — піша спадар Гардзей, — у рэдакцыю розныя выразкі з польскіх і ўкраінскіх газет, якія закранаюць беларускія справы. З гэтых выразак вы пабачыце, што палякі мараць, каб адабраць заходнюю Беларусь і далучыць яе да Польшчы. Гэтыя лонданскія шавіністы маюць цесную сувязь з «Саюзам палякаў на Беларусі». Ці *не пара* беларускаму ўраду зацікавіцца гэтай справай і зрабіць адпаведны вывад. Бо калі беларускі ўрад *не спыніць* падрыўную работу «Саюза палякаў на Беларусі», калі не забароніць прыезд на Беларусь польскім каталіцкім ксяндзам, калі не забароніць польскім гандлярам-чорнарынкоўцам рабаваць беларускае насельніцтва, дык, баюся, што за 5—10 год на Беларусі створыцца «Нагорны Карабах».**

Хацелася б думаць, што спадар М. Гардзей памыляецца, і «Нагорнага Карабаха» на Беларусі не будзе, але мы не маем права ігнараваць настроі польскага грамадства і тэндэнцыі польскай знешняй палітыкі. Бо часам журналісты пішуць тое, пра што палітыкі думаюць.

Прывядзём вытрымкі з лонданскага выдання «Дзеннік польскі» за мінулы год. У № 145 у допісе «Літоўскі пасол у Польскім Лондане» паведамляецца, што З'еднача Польске ў Лондане наведаў Ч. Акінчыц, дэпутат Вярхоўнага Савета Летувы, старшыня Саюза палякаў у Вільні. Ён выказаў спадзяванні, што як Віленскі раён, так і ўсе польскія раёны, дзе, па ягоных словах, жыве 300 000 палякаў, дачакаюцца асобнага статута, які будзе гарантаваць асобныя правы для палякаў. Апроч таго, дэпутат, як прафесійны юрыст, заявіў, што галоўнай падставай для сучасных перамоў наконт усходняй мяжы Польшчы з новымі суседзямі павінен быць *Рыжскі трактат*, а не змова *Молатава-Рыбентропа*, пазней зацверджаная ў Ялце. Слухачы, што ў большасці родам з «крэсаў», былі гэтым прыемна ўражаны. Вядучы сустрэчы нават заявіў, што калі ўсе палітыкі ў Летуве будуць так цвяроза думаць, як Ч. Акінчыц, дык будучыня Летувы і польскага насельніцтва на гэтай тэрыторыі будзе пазітыўная.

*«Дзеннік польскі»* № 219. У рэдакцыю звярнулася з лістом жыхарка Лондана Я. Квяткоўская, якая, пэўна, таксама родам з «крэсаў»: «Не можам бяздзейсна чакаць на зварот нашых усходніх земляў. Яны былі гарантаваныя Рыжскім трактатам, які да сёння не страціў сваёй актуальнасці. Ялцінская змова-гвалт над Трактатам... Вялікая памылка міністра Скубішэўскага, які казаў, што Польшча не мае тэрытарыяльных прэтэнзій. Гэта было так неабдумана і сітуацыя мяняецца, і, можа, міністр выправіць памылку. Зараз адпаведны момант, менавіта, калі Расія трашчыць па швах».

«Дзеннік польскі» № 234 друкуе ліст занепакоенага чытача: «Выглядае так, што Каралевец (Кёнігсберг) можа быць адданы немцам. Гэта нічога добрага не варожыць для Польшчы. Можа ўзнікнуць новая Усходняя Прусія. Каралевец павінен належыць да Польшчы... Каб Польшча была ўсёй Польшчай, маем дэвіз: Польшча не толькі Гданьск (Данцыг), Шчэцін (Штэцін) і Вроцлаў (Брэслаў), але таксама Каралевец, Вільня і Львоў».

Як інфармуе той жа «Дзённік», у кастрычніку мінулага года «Камітэт дапамогі палякам у Расіі» выдаў тысячы до*лараў на наступныя справы:* на выданне Катэхіза на польскай і рускай мовах 20 тыс. асобнікаў, на арганізацыю года А. Міцкевіча ў Гродне, на духоўную семінарыю сясцёр назарэтанак у Навагрудку, на харавы ансамбль у баранавіцкім касцёле. Долары пайшлі на польскі касцёл у Кобрыне, Бярэсці, Пінску, Дзісне, Навагрудку, Друі, а таксама ў Мінску і Пяршаях.

У заяве Саюза ўсходніх земляў РП (Рэспублікі Польшча) ад 21 верасня 1991 года падкрэслена: «...у святле Рыжскага трактату (1921 г.) права міжнароднага і маральнага, а таксама ў імя справядлівасці—усходнія землі РП не перасталі быць польскімі і надалей з'яўляюцца неаддзельнаю часткаю тэрыторыі польскай дзяржавы». І далей: «Усходнія землі РП павінны быць уключаны зноў у тэрыторыю польскай дзяржавы, з выплатай *кампенсацый за эксплуатацыю* натуральных багаццяў».

У лістападзе «Дзеннік» паведамляе аб Саюзе Земляў Паўночна-Усходніх, які існуе з 1941 года. Ініцыятары — Аляксандра Пілсудская, генерал Луцыян Жэлігоўскі, сенатар Юзэф Гадлеўскі, палкоўнік Людвік Ліхтаровіч. «Землі, заграбленыя ад Польшчы —Чэрвеньшчына, Віленшчына, Палессе, *Валынь, Падолле*». Тыя, хто паходзіць з гэтых тэрыторый і рассеяны па вольным свеце, павінны на думку сяброў саюза, змагацца за іх вызваленне. «Гэтая ўсходняя зямля, польскай крывёю ўскормленая, яна — несупынны боль аб стратах і людзях. Нашы думкі бягуць па-за межы, *акрэсленыя* ворагамі (Расіяй і Саветамі)». Гэта ўсё абавязвае (бо мэта не дасягнута) саюз дзейнічаць далей. У артыкуле крытыкуюцца тыя міністры і палітыкі, якія бессэнсоўна адракаюцца ад гэтых земляў на карысць суседзяў. Сцвярджаецца, што польскі народ у большасці сваёй такой *палітыкі не падтрымае*. Урад Польшчы павінен даваць усебаковую дапамогу палякам на **«ўсходніх землях»** і ў **Расіі...** Нельга не працытаваць апошні абзац гэтага змацыянальнага артыкула: «Пакінутае там польскае насельніцтва чакае належныя правы і справядлівасць у імя гістарычнай праўды звароту гэтых дарагіх сэрцу земляў усходніх ды **Найяснейшай Рэчы паспалітай Польскай».**

Прыблізна тыя ж думкі, але выказаныя ў іншай форме, знойдзем і ў матэрыялах часопіса «Магазын Польскі», выдаўцом якога лічыцца «Саюз палякаў на Беларусі», першы нумар якога выйшаў у свет не так даўно.

*«Саюз палякаў* на Беларусі» — адзіная нацыянальная суполка, якая мае ўласны перыядычны друк. Ужо некалькі гадоў выходзіць газета «Глос з-над Нёмна» і вось квартальнік — «Магазын Польскі» (далей «МП»). У гэтых двух выданняў ёсць адна характэрная дэталь. Яны абодва рыхтуюцца ў Польшчы: газета — у Беластоку, часопіс — у Варшаве. Толькі друкуюцца на паліграфічнай базе ў Беларусі. Польскія дзеячы розных рангаў лю-

